**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць погляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# *ЗВАРОТ*
## *вэтэранаў-дэмакратаў да насельніцтва Беларусі*

"Народная Воля"

Дарагія суайчыннікі!
Грамадзяне Беларусі!

Падзеі апошняга часу выклікаюць сур'ёзны непакой за далейшы лёс Бацькаўшчыны. Таму мы, ветэраны вайны і працы, людзі сталага веку, звяртаемся да вас з гэтай ухвалай.

Рэферэндум, які адбыўся на Беларусі 14 траўня гэтага года, дае ўжо зараз адмоўныя вынікі ў развіцці нашага грамадства. У будучым яго наступствы могуць стаць яшчэ горшымі, калі мы моўчкі ды безудзельна будзем назіраць за ходам падзей.

З паведамленняў у сродках масавай інфармацыі вядома, як антыбеларускія сілы ў многіх месцах фальсіфікавалі вынікі галасавання па рэферэндуму, маніпулюючы бюлетэнямі тых, хто як след не разабраўся, як і за што галасаваць, хто ўвогуле не прыйшоў на выбарчыя ўчасткі. Але былі сярод беларусаў і такія, хто сказаў "не" беларускай мове і нацыянальным сімвалам. Ці могуць яны лічыць сябе пасля гэтага беларусамі? Наўрад. Бо якія яны беларусы, калі выракаюцца роднае мовы! Але ж яны і не рускія, не палякі, не яўрэі, не літоўцы, якія адказна ставяцца да сваіх нацый, моў, сімвалаў. Нешматлікі чэчэнскі народ не шкадуе свайго жыцця дзеля абароны роднай зямлі. Адрачыся ад вызначальных прыкмет нацыі — мовы і сімвалаў — учынак глыбока амаральны, здрада сваім продкам, якія з годнасцю баранілі Бацькаўшчыну. Гэта здрада і ўласным нашчадкам. Няма мовы і нацыянальных сімвалаў — няма народа. Няма народа — няма Дзяржавы. Няма Дзяржавы — ніхто не абароніць інтарэсы нацыі. Над нашымі дзецьмі ды ўнукамі ўжо цяпер навісла рэальная пагроза ператварыцца ў гарматнае мяса ў канфліктах Расіі з яе суседзямі, стаць таннай рабочай сілай у новых, але такіх знаёмых гаспадароў.

Шаноўныя суайчыннікі — не беларусы па нацыянальнасці! Вы жывяце сумесна з беларусамі, на адных жыццёвых абшарах. Адны — з незапомных часоў, другія — з нядаўніх. Але наступствы Чарнобыльскай катастрофы, як і іншыя беды, аднолькава адмоўна ўздзейнічаюць на ўсіх нас. Само жыццё паказала: добра на беларускай зямлі беларусам — добра і ўсім, хто жыве і працуе поруч з імі. Толькі адстойваючы інтарэсы нашай агульнай Бацькаўшчыны — Беларусі, вы абароніце і свае інтарэсы. Але тыя з вас, хто сказаў "не" беларускай мове ды нашай адвечнай сімволіцы, хто бярэ ўдзел у антыбеларускіх арганізацыях, выступае супраць незалежнасці краіны, той сее зерне недаверу, нядобразычлівасці паміж людзьмі розных нацыянальнасцей. Не трэба сеяць вецер. Можна пажаць буру.

Грамадзяне, якія выказаліся на рэферэндуме за родную мову, за нацыянальныя сімвалы! Вы з'яўляецеся носьбітамі гонару нацыі. Па вашых паводзінах, па вашых учынках будуць меркаваць аб беларусах у цэлым свеце. Аб'ядноўвайцеся! Стварайце беларускамоўныя асяродкі там, дзе жывяце і працуеце. Гадуйце сваіх дзетак фізічна і маральна здаровымі, жыццеўстойлівымі. Выхоўвайце іх на лепшых традыцыях народа, у духу нацыянальнай свядомасці, адданасці Бацькаўшчыне. У сучасных умовах гэта цяжка, але магчыма. Не забывайцеся, што нас, шчырых патрыётаў незалежнай Беларусі, не так ужо і мала.

Дай Бог, нам сілу і веліч веры у нашу праўду і ў наш народ!

**Атаманаў Дзмітрый, Бубовіч Яўген, Бубовіч Лідзія, Бельская Святлана (Мінск), Бузаў Павел (Маладзечна), Белая Таццяна, Вольскі Артур, Габрусь Анастасія, Ерамеевіч Віктар, Забаўская Вольга, Касцюк Інэса, Курмаз Уладзімір, Касцюкевіч Васіль, Краснікаў Іван (Мінск), Лагодзіч Мікалай (Пінск), Ляпарская Ларыса, Лук'янцаў Уладзімір, Масалкова Ліна (Мінск), Мельнікаў Мікалай (Гродна), Малаковіч Надзея, Нямковіч Вацлаў (Мінск), Папянюк Віктар (Ляхавічы), Пухоўскі Аляксандр (Мінск), Пятроўскі Альберт (Віцебск), Самсонаў Аляксандр, Сарычава Юзэфа (Мінск), Сосна Аркадзь (Маладзечна), Татур Мікола, Фалькоў Міхаіл, Хубаніна Эма (Мінск), Цярэшчанка Яўген (Верайцы, Пухавіцкі р-н), Чарнуха Міхаіл (Віцебск), Шкірманкоў Фелікс (Слаўгарад), Шарамет Альберт, Шыманец Леанід, Шчарбакова Галіна (Мінск), Шусцікі Тадэвуш (Маладзечна).**

# Трывожныя сімптомы спакойнага ліпеня

"Народная Воля"

**Андрэй РУСАКЕВІЧ**

Вось і прайшоў адзін з самых доўгачаканых і жаданых месяцаў на Беларусі — ліпень. Мы пражылі яго ўвогуле ціха, спакойна, многія пенсіянеры — з надзеяй на нейкае паляпшэнне. А прэзідэнт нават выпраменьваў перад тэлекамерай аптымізм.

Што ж прыкметнага адбылося ў ліпені? Мінск наведалі прэзідэнт Украіны Леанід Кучма, прэм'ер-міністр Літвы Адольфас Шляжавічус, высокая дэлегацыя з Ірана, Патрыярх Алексій II. Адзвінеў "Славянскі базар", пачаліся экзамены ў ВНУ пад наглядам правяраючых з высокіх інстанцый, начальства адзначыла традыцыйным ускладаннем кветак Дзень незалежнасці Беларусі...

На мой погляд, прайшлі гэтыя падзеі будзённа, невыразна і наўрад ці яны акажуць больш-менш істотны ўплыў на наступныя грамадскія працэсы. Хутчэй за ўсё аб іх усе хутка забудуць. Запомняць, мабыць, асобныя фрагменты. У прыватнасці, як Кучма гаварыў аб тым, што Украіна не спяшаецца лезці ў той мытны саюз, у які ўжо ўцягнулася Беларусь. Нельга не звярнуць увагу, што, нягледзячы на вялікую рэкламу, "Славянскі базар" так і не становіцца такім. Ён усё больш набывае абрысы базара СНД, у ім усё менш добрай музыкі, і ўсё больш непрыгожай палітыкі. Вось і на мінулым не былі шырока прадстаўлены ўсе славянскія краіны Усходняй Еўропы. Некаторыя з іх прынялі чыста сімвалічны ўдзел.

І ўсё ж, у ліпені адбыліся і значныя падзеі, якія, несумненна, акажуць свой уплыў як на бліжэйшую, так і на больш далёкую перспектыву. Хоць пра іх і не вельмі пісаў афіцыйны друк. Што зробіш, такі ўжо ў нас друк, які зашмат скуголіць аб другарадным, будзённым, абы дагадзіць начальству і ўпарта не хоча бачыць галоўнага.

На мой погляд, важнейшая падзея ліпеня — святкаванне Купалля. Яму стагоддзі, і яно, гэтае нацыянальнае свята, найлепш адлюстроўвае самую сутнасць нашага народа, які вякамі марыць і шукае "кветку шчасця". Нягледзячы на тое, што ўлады халаднавата, нават дзіўна, не выдавіўшы ані слова, аднесліся да гэтага дня, яго святкавала ўся Беларусь. Я бачыў, як суседскія хлопцы і дзяўчаты, хлапчукі з двара распытвалі, дзе свята будзе і рыхталіся да яго. Ішло гэта памкненне з іхніх сэрцаў. Значыць, жывая яшчэ Беларусь. Веру, пройдзе час, калі Купалле стане нашым галоўным нацыянальным святам. Веру, будзе ў нас урад, які ў першы ж свой такі дзень назаве, скажам, адну з цэнтральных плошчаў горада Мінска "Папараць-кветка" і прыме рашэнне пабудаваць тут велічны помнік гэтай кветцы — сімвалу векавой мары беларусаў.

Нельга не звярнуць увагу на яшчэ адну падзею — марш рабочых Мінскага завода аўтаматычных ліній да прэзідэнта. Нялішнім будзе нагадаць, што менавіта гэты калектыў паклаў пачатак палітычнаму страйку ў тыя вядомыя красавіцкія дні, калі ледзь-ледзь утрымаўся ўрад Кебіча. На гэты раз рабочых сустрэў на паўдарозе прэм'ер-міністр Чыгір і паабяцаў ім у бліжэйшыя тры дні выплаціць зарплату. Толькі пасля гэтага яны павярнулі назад.

Але ж такое становішча з выплатай заработнай платы на многіх заводах. Ці не захочуць і іх рабочыя, па прыкладу МЗАЛа, рушыць "за грашыма" да прэзідэнцкай рэзідэнцыі? І ці хопіць у Чыгіра сродкаў, каб такім чынам тушыць сацыяльныя канфлікты.

Пакуль што ціха, рабочыя не рухаюцца калонамі ў цэнтр сталіцы, таму што многія калектывы ў вымушаных адпачынках: адны працаўнікі корпаюцца на дачах, другія — паехалі ў вёску ці па пуцёўках. Але восенню яны вернуцца ў цэхі... Я гутарыў з прафсаюзнымі актывістамі і яны кажуць, што з нецярпеннем чакаюць верасня. Калі не прыняць тэрміновых захадаў па рэфармаванню эканомікі і выплаце заработнай платы, дык цяжка прадказаць напал эмоцый.

Трывожны сімптом ліпеня — інфармацыя з Міністэрства адукацыі аб тым, што пачалося выцясненне беларускай мовы са школы. Робіцца такое нібыта дэмакратычна — бацькам дадзена права вырашаць, на якой мове павінны вучыцца іх дзеці. Але ж давайце ўзгадаем, што было на пачатку гэтага працэса. А тое, што сілком, рэпрэсіямі і кулямі навязалі грамадству чужую мову, а калі на ёй вырасла некалькі пакаленняў, якія зусім забылі матчыну мову, пытаюць у іх: "На якой будзеце вучыцца?" Хіба гэта не цынізм? Нарэшце, чаму такая "дэмакратычнасць" датычыцца толькі аднаго школьнага прадмета — беларускай мовы? Чаму бацькам і школьнікам не дадзена права самім вырашаць, ці вучыць ім матэматыку, геаметрыю. Як тут не згадаць і тое, што нават немцы ў 1941—43 гадах не пайшлі на такі крок — выцясненне са школы нацыянальнай мовы. Больш таго, яны вярнулі яе туды... Ясна, што наступ русіфікатараў не прынясе ў наш дом ні спакою, ні міру, бо гэта адкрыты выклік нашай свабодзе і нашай чалавечай годнасці. Як высвятляецца сёння, многія на рэферэндуме галасавалі за "роўнасць дзвюх моў" з надзеяй, што цяпер, нарэшце, пачнуць узнімаць нацыянальную мову да ўзроўню вялікай і магутнай. Але, аказваецца, меліся зусім процілеглыя намеры.

Усё сказанае і параджае трывожнае прадчуванне. Калі задумацца, то ліпень толькі пацвердзіў тэндэнцыю, якая дамінуе ўвесь апошні год — далейшае пагаршэнне сітуацыі па многіх накірунках. Мінулы месяц не прынёс надзеі, а толькі паказаў нарастанне сімптомаў.

## *У партыях і рухах*

### БЛІЗЯЦЦА ВЫБАРЧЫЯ БАТАЛІІ

**Адбылося пасяджэнне Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, на якім было рэкамендавана мясцовым арганізацыям партыі вызначыцца ў падборы кандыдатаў у дэпутаты ВС Рэспублікі Беларусь. Пры пашырэнні Выканкома БСДГ былі ўведзены новыя сябры, сярод якіх А.Гурыновіч, Л.Дзейка, М.Чарняўскі, В.Шаранговіч.**

Цэнтральная Рада пасля дыскусіі ўхваліла дзейнасць Выканкома па ўтварэнню Сацыял-дэмакратычнага Саюза і рэкамендавала мясцовым арганізацыям сфарміраваць дзеля каардынацыі сумесных дзеянняў рэгіянальныя камітэты разам з прадстаўнікамі партый -- удзельнікаў СДС.

Аднагалосна Цэнтральная Рада БСДГ выказалася за правядзенне нечарговага з'езда БСДГ, на якім у рамках падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Савет будзе абмеркавана стварэнне юрыдычнага выбарчага блока на базе СДС з магчымым удзелам іншых дэмакратычных партый. Даручана Выканкому правесці перамовы аб падзеле выбарчых акруг з прадстаўнікамі партый нацыянал-дэмакратычнага і ліберальнага кірункаў, якія не ўвойдуць у перадвыбарны блок.

НАША ГАЗЭТА ВЫДАЕЦЦА ДЗЯКУЮЧЫ АХВЯРНАСЬЦІ ЧЫТАЧОЎ...
*КАЛІ ЛАСКА,*
*ПАДТРЫМАЙЦЕ НАШУ ГАЗЭТУ!..*

"Сталіца"

## *Міхаіл ПЛІСКА, старшыня выканкама Аб'яднанай дэмакратычнай партыі:*

— Я лічу, у дэмакратаў зараз значна больш шанцаў на аб'яднанне, чым раней. Толькі што створаныя блокі лібералаў і сацыял-дэмакратаў, каб пазбегнуць канкурэнцыі паміж сабой на асенніх парламенцкіх выбарах, ужо пачынаюць перамовы аб падзеле акруг. Праўда, пакуль яны вядуцца на неафіцыйным узроўні, але сам гэты факт ўжо ўсяляе аптымізм.

Асобная гаворка аб падобных перамовах з Беларускім народным фронтам. Бо, як паказала практыка папярэдніх выбараў, БНФ не стрымаў узятых на сябе абавязкаў нават у адносінах да ўласных саюзнікаў — Грамады і Сялянскай партыі. Аднак разам з тым, наўрад ці варта катэгарычна адмяжоўвацца ад Народнага фронта. Безумоўна, стварыць перадвыбарчы блок з гэтай арганізацыяй будзе складана, але цалкам верагодна, што мы здолеем знайсці паразуменне з БНФ і скаардынаваць нашыя дзеянні падчас выбарчай кампаніі.

Увогуле, на маю думку, на асенніх выбарах дэмакраты маюць вялікія шанцы, бо вясной выбары адбыліся пераважна толькі на вёсцы. Гэта значыць, там, дзе перавагу мелі нашыя сапернікі. Іншая справа будзе ў гарадах. Таму галоўнае зараз — спыніць дыскрэдытацыю парламента як з боку выканаўчай улады, так і з боку сродкаў масавай інфармацыі, каб народ усё ж такі прыняў удзел у галасаванні. У адваротным выпадку ўсе нашыя намаганні па аб'яднанні дэмакратаў акажуцца проста дарэмнымі.

## *Юрась ХАДЫКА, намеснік старшыні БНФ:*

— Сапраўды, мінулыя выбары паказалі неабходнасць дэмакратычнага адзінства, бо вялікая колькасць кандыдатаў ад дэмакратычных партый рознага кшталту прывяла да раскіданасці думак нашых грамадзян, якім было цяжка зрабіць асэнсаваны выбар. Таму да сённяшніх захадаў, скіраваных на кансалідацыю невялікіх партый, БНФ можа аднасіцца толькі станоўча. Адлаведна, мы вітаем стварэнне Сацыял-дэмакратычнага Саюза. У цяперашняй сітуацыі нам падаецца карысным і аб'яднанне тых партый, што стаяць на ліберальных пазіцыях. Такім чынам, сёння расклад сіл на Беларусі ўяўляецца вельмі выразна. У гэтым спектры Беларускі народны фронт разам са сваімі саюзнікамі займае тое месца, на якое прэтэндавалі заўсёды — цэнтрысцкай, кансерватыўнай, хрысціянска-дэмакратычнай партыі.

Але існаванне на Беларусі па сутнасці трох блокаў дэмакратаў прынясе карысць толькі тады, калі яны здолеюць паразумецца паміж сабой падчас выбараў. Дарэчы, грунт для такога паразумення відавочны ўжо сёння, бо ўсе беларускія дэмакраты стаяць на пазіцыях абароны незалежнасці нашай краіны. Менавіта асэнсаванне неабходнасці дзяржаўнай незалежнасці Беларусі і неабходнасці стварэння парламента як супрацьвагі аўтарытарызму выканаўчай улады — дастатковая падстава для аб'яднання ўсіх дэмакратаў Беларусі. Наконт размоў аб імкненні БНФ падпарадкаваць сабе пры падобным аб'яднанні іншыя партыі — падобныя апасенні абсалютна неабгрунтаваныя. БНФ выступае за саюз роўных. Таму ёсць спадзяванні, што да восені кансалідацыя дэмакратаў усё ж такі адбудзецца. Але не на ўзроўні стварэння адзінага блоку, а праз падпісанне пэўнага пагаднення, якое дазволіць пазбегнуць на выбарах канкурэнцыі паміж прадстаўнікамі ўсіх трох палітычных сіл дэмакратычнага характару.

# Хамская ўлада

CZASOPIS

**У Беларусі адбылося такое, што вельмі лёгка можа было прадбачыць, хаця нават дагэтуль цяжка ў гэта паверыць. Вось менавіта дзесяцімільённы народ у цэнтры Еўропы вырашыў, што непатрэбная яму нацыянальная мова, гістарычная сімволіка, незалежная дзяржава, урэшце — дэмакратычны лад у краіне. Частка заходніх журналістаў, якія ўпершыню прыехалі ў Беларусь, пракаментавалі гэта такім чынам, што беларусы ў нейкім незразумелым адчаі масава вырашылі пра нацыянальнае самагубства.**

Справы маюцца аднак зусім інакш, а маім намерам ёсць звярнуць увагу Чытача на некалькі фактаў, якія вырашылі такое становішча ў краіне.

Першая, і на маю думку найважнейшая выснова ёсць такая, што рэферэндум і выбары ў Вярхоўны Савет праходзілі ў недэмакратычных умовах. Ужо выбарчы закон ад самага пачатку не даваў шанцаў абрання новага Вярхоўнага Савета (закон фактычна забараніў кандыдатам у дэпутаты весці выбарчую акцыю, і давяло гэта да таго, што выбаршчыкі нічога не ведалі пра кандыдатаў і іх праграмы). Паслядоўнасцю такіх прававых умоваў ды агульнай вельмі мізэрнай палітычнай культуры ў Беларусі аказалася абсалютнае падпарадкаванне сродкаў масавага інфармавання адной палітычнай арыентацыі — камуністам. Дэмакратычныя і незалежніцкія партыі не мелі да іх анiякага доступу. Вялася нахабная камуністычная прапаганда, якую ўсімі сіламі падтрымліваў прэзідэнт Лукашэнка. Аднак — дзіўная рэч — нягледзячы на адносна вялікае зацікаўленне Беларуссю ў час выбараў, ніводная польская газета не напісала, у якіх умовах яны праходзілі. А гэта ж вырашае пра легальнасць нававыбраных уладаў а таксама тых, хто выбары арганізаваў.

Толькі выпадкова давялося мне прачытаць заяву прэс-інфарматара Дзяржаўнага дэпартамента ЗША Ніколаса Бэрнса ад 16 мая, у якім у прыватнасці гаворыцца: „14 мая Рэспубліка Беларусь правяла нацыянальны рэферэндум і першыя парламенцкія выбары ад часу абвяшчэння незалежнасці. Некалькі груп міжнародных аглядальнікаў уключна з прадстаўнікамі Парламенцкай асамблеі Арганізацыі бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе сцвердзілі, што выбары не праходзілі згодна з міжнароднымі нормамі забеспячэння ім свабоднага і справядлівага характару. Міжнародныя наглядальнікі асабліва звярнулі ўвагу на факты абмежавання дзейнасці палітычных партый, недасканаласць выбарчага закона ды адсутнасць свабоды прэсы. Урад Беларусі поўнасцю кантраляваў галоўныя сродкі масавай інфармацыі, зачыніў незалежны канал тэлебачання, зняў чатырох галоўных рэдактараў газет ды аплёўваў некаторыя палітычныя сілы". У заключэнні прадстаўнік амерыканскага Міністэрства замежных спраў сцвярджае: „Свабодныя і справядлівыя выбары з'яўляюцца найважнейшай часткай працэсу дэмакратызацыі і правядзення парламенцкіх рэформаў" ды шкадуе, што менавіта такія выбары ў Беларусі не адбыліся.

Трэба паставіць пытанне: чаму гэтая вельмі істотная заява не каментавалася ў сродках масавага інфармавання ў свеце?

Другая выснова такая, што ў Беларусі ўсяго прыблізна адзін мільён беларусаў! Астатнія — гэта савецкія людзі, вынік бальшавіцкага эксперымента. Савецкі чалавек гэта такі від *homo sapiens*, якому дастаткова паесці таннай каўбасы, папіць гарэлкі і адчуваць над сабой цвёрдую руку пана. Панам яны лічаць Лукашэнку — у сапраўднасці калгаснага прастака, які ў выніку недаразумення, або, як кажуць некаторыя, намаганняў маскоўскіх спецслужбаў, стаў „бацькам народа". (Паслявыбарчыя падзеі, асабліва акт інкарпарацыі Беларусі падпісаны 24 мая ў Мінску п'яным, як заўсёды, Ельцыным і Лукашэнкам пацвярджаюць апошнюю версію).

Аказалася таксама, што (гэта пэўна менш істотнае, але ўсё-такі маючае значэнне для нас, беларусаў у Польшчы) у Беларусі няма палякаў. Міф распаўсюджаны ў Польшчы, што на беларускіх „kresach" пражывае мільён палякаў, якім з дзяржаўнага бюджэту слаліся сотні мільярдаў злотых аказаўся чыстай ілюзіяй. Тамашнія „палякі" такія ж саветы, як і ўсе астатнія жыхары Беларусі.

Урэшце — пытанне існавання ў Беларусі палітычнай апазіцыі. Нягледзячы на ўсе акалічнасці, абранне чатырох „дэмакратаў" у другім туры галасавання абазначае татальны пройгрыш незалежніцкіх партый. На маю думку, няма ніякага сумнення, што гэта апошні шанс задумацца над прычынамі такога становішча і пашукаць віноўнікаў. Тлумачэнняў аб'ектыўнымі прычынамі ніхто слухаць не будзе.

Каб закончыць, наіўна хочацца запытацца: чаму так сталася?

Усё ранейсказанае гэта толькі паасобныя паслядоўнасці галоўнага віноўніка — прынцыпаў актуальнай геапалітыкі. Не трэба хіба нікога пераконваць, што г.зв. цывілізаваны заходні свет даўно пагадзіўся аддаць Беларусь Маскве. Таму менавіта, пакуль будзе трываць цяперашні расклад уздзейнічання паасобных дзяржаў на міжнародную палітыку, змаганне за дэмакратычную і незалежную Беларусь будзе нагадваць разбіванне голай галавой саліднага бетоннага муру.

Кастусь РАЗУМАК




Відаць, людзі з акружэньня прэзыдэнта так выбражаюць беларуса ў 21-м стагодзьдзі...

# Пад бел-чырвона-белым сьцягам разьвіталася Беларусь з Максімам Танкам

Перастала біцца сэрца вялікага сына маёй зямлі Максіма Танка. Яго зорцы, як лічыў Рыгор Шырма, вечна ззяць у сузор'і Купалы і Коласа.

Тысячы мінчан прыйшлі 9 жніўня развітацца з народным песняром Беларусі. Пісьменнікі, мастакі, артысты, рабочыя, землякі... Плылі вянкі, кветкі, лунаў бел-чырвона-белы сцяг. Яго цалавалі. На вочы мімаходзь наварочваліся слёзы. Развітваліся не толькі з паэтам, які праславіў Беларусь на ўвесь свет, але і з цэлай эпохай.

Максім Танк, як і Алесь Адамовіч, пажадаў, каб пахавалі яго на радзіме: на мілым сэрцу Нароччы, апетым ім у паэмах і вершах. Мядзельская зямля дала нам яго, выпеставала, узгадавала, акрыліла, яна і забрала. Там, у Пількаўшчыне, дзе паэт рыбачыў, араў, касіў, сярод блізкіх і родных людзей знайшоў ён апошняе прыстанішча.

*Клічуць мяне, ля расстайных дарог,*
*Сосны, якіх я ад куль не зьярог...*
*Попел радзімы і цені братоў*
*З-пад незарослых магіл-курганоў.*

Гэты кліч з гадамі станавіўся ўсё больш і больш уладным. Яму было ўсё цяжэй супрацьстаяць. Не стала жонкі, дачкі... Толькі думы пра вольную Беларусь, жаданне яшчэ хоць што-небудзь зрабіць для яе шчасця, яе славы, падтрымлівалі няўломны дух, згасаючыя сілы. Ён спяшаўся завяршыць свой круг, не лез у вялікую палітыку, не выступаў арбітрам у спрэчках правых і левых. Хто скажа сёння, што думаў, што згадваў паэт у апошнія гадзіны свайго жыцця. Можа, сяброў па Радашкавіцкай беларускай гімназіі, з якой быў выключаны за ўдзел у школьнай забастоўцы, ці віленскую турму "Лукішкі", дзе адбываў пакаранне?.. Магчыма, хвілі трыумфу, калі бунтарная моладзь пасля паэтычнай вечарыны вынесла яго з залы на руках.

Так ужо здарылася, што не заўсёды на зямлі нашай цанілі талент. Але ён у Максіма Танка настолькі яркі, самабытны, што не заўважыць яго было немагчыма. З гадамі слабеў бунтарны дух, але не талент паэта. Здзіўлялі свет яго паэмы, вершы, цудоўныя вобразы вольнага краю, слынных продкаў. Ніводзін літаратар Беларусі не заслужыў столькі ўзнагарод, як Максім Танк. Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Ленінскай і Дзяржаўных прэмій, кавалер чатырох ордэнаў Леніна, ордэнаў Чырвонага Сцяга, Кастрычніцкай рэвалюцыі, Дружбы народаў, афіцэрскага крыжа Адраджэння Польшчы.

Уладзімір Калеснік назваў Максіма Танка "носьбітам ідэала, харaства — чалавекам усебакова развітым, прыгожым і целам, і духам...".

Не верыцца, што ўжо ніколі не ўбачыць яго высокую постаць сярод калег у Доме літаратара, не пачуць добры, ласкавы голас паэта. Над ім сёння шумяць нарачанскія сосны.

**Васіль ШЫРКО,**
**пісьменнік.**

"Народная Воля"

# ЗАХАВАЦЬ ГОДНУЮ, НЕЗАЛЕЖНУЮ БЕЛАРУСЬ...

"Звязда"

Адразу агаваруся, што ў сваіх публікацыях стаяў і ў далейшым буду стаяць на тым, што Беларусь з Расіяй павінны мець цесныя дружалюбныя эканамічныя і духоўныя адносіны, як два брацкія народы і саюзнікі. У далейшым, я ўпэўнены, такія адносіны складуцца, а пакуль Расія ўсё робіць на сваю карысць толькі таму, што ў яе ўжо выпрацаваны напрамкі стратэгічнай палітыкі дзяржавы, у тым ліку і ў адносінах да Беларусі. Парадокс цяперашняга стану нашай эканомікі, фінансаў, сельскай гаспадаркі, прамысловасці заключаецца ў тым, што, пакуль мы будзем жыць у «беларускім калідоры», а не ў дзяржаве з дакладна акрэсленай праграмай эканамічнага і духоўнага развіцця, нашы суседзі будуць абыходзіцца з намі як з прыслугай і нечым другарадным, што блытаецца пад нагамі, але без чаго не абысціся... Але як Папялушка ператварылася ў прынцэсу, так Беларусь можа ператварыцца са служанкі ўсходняга суседа ў паважанага і надзейнага партнёра.

Па якому шляху мы павінны пайсці?

Па-першае, спытаем у сябе, ці хочам мы быць паважанай, незалежнай дзяржавай, са сваім месцам і ўплывам у Еўропе? Такое пытанне першым павінна ўзнікнуць у Прэзідэнта.

Па-другое, ад адказу на першае пытанне залежыць стратэгічная праграма эканамічнага і культурна-духоўнага развіцця Рэспублікі Беларусь, бо, якім будзе адказ, такой будзе і праграма (мяркуючы па адсутнасці гэткай праграмы ў цяперашняй адміністрацыі, пытанне гэта ніхто там не задаваў ці яшчэ было не да дзяржаўнай стратэгіі).

Па-трэцяе, спыніць палітыку размежавання беларускага грамадства, народа на правых і левых, фашыстаў і камуністаў...

Па-чацвёртае, забяспечыць, нарэшце, нашым ветэранам, пенсіянерам дастойнае жыццё, каб яны спакойна займаліся справамі сваёй сям'і, а не цягалі па мітынгах штандарты свайго юнацтва.

Па-пятае, спыніць на дзяржаўным узроўні палітыку запалохвання парламента Прэзідэнтам і наадварот. Робіцца гэта і навязваецца нам саветнікамі шэрага дзяржаўных лідэраў Расіі, якім абыякавыя як інтарэсы Расіі, так і Беларусі, бо за імі стаяць газанафтавыя канцэрны.

І г. д. Можна доўга пералічваць ўсё неабходнае.

А найперш трэба засвоіць нашым лідэрам, што дзяржава багатая не нафтай і вугалем, а людскім патэнцыялам. Нам патрэбны і «мазгавы інтэлект», і «ўмелыя рукі», г. зн. вучоныя, навукоўцы, супрацоўнікі, інжынеры, дзеячы культуры, урачы, спецыялісты вядучых перспектыўных галін прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Прычым прававая палітыка гэта лінія павінна на канкурэнтнай аснове з падтрымкай дзяржавы...

Як зберагчы радзіму, народ, культуру? Над гэтым яшчэ задумваўся Навагрудскі князь, князь Чорнай Русі Міндоўг, якога інакш яшчэ называлі Літоўскім, па аднайменнай назве племя славян ліцвінаў, якія жылі па берагах ракі Літоўкі, што несла свае воды побач з Наваградкам. (Заваявальнікі ішлі і на нашу зямлю, зямлю, якую ўсходнія славяне называлі Белай і Чорнай Руссю.) Ён у 1242 годзе заклаў аснову перамог над татара-манголамі, што дазволіла яму пачаць будаўніцтва унікальнай федэратыўнай славянскай дзяржавы, межы якой потым распрасціраліся ад Балтыкі да Чорнага мора...

Гісторыя, якую падносілі ў афіцыйных падручніках і кнігах з 1917 года ў школах і ВНУ, заўсёды прымяншала гістарычныя падзеі, што адбываліся на тэрыторыі цяперашняй Беларусі і мелі вялікую значнасць для ўсіх славян у цэлым. Вядомы пісьменнік, нябожчык В. Пікуль у адной з гутарак з аўтарам гэтага артыкула наконт Беларусі сказаў: «Калі б беларусы змаглі прыўзняць гістарычную заслону мінулага, то іх захапленне сваёй Радзімай было б настолькі вялікім, што свае гістарычныя цэнтры-гарады, Полацк і Навагрудак, яны паставілі б па гістарычнаму рэйтынгу і ўплыву ў Еўропе на першае месца у XI-II—XV стагоддзях»... Менавіта гэтыя цэнтры заклалі фундамент нашай дзяржаўнасці, што дало магчымасць не толькі процістаяць мангола-татарскаму нашэсцю, але і стварыць магутную і высокакультурную дзяржаву славян — Вялікае княства Літоўска-Рускае, якое ў аснове і па духу з'яўлялася беларускім... Варта б ведаць пра ўсё гэта і ганарыцца гэтым.

**Уладзімір КСЁНЗ,**
**генеральны дырэктар**
**Беларуска -латвійскай ПКФ «Лідзія».**
г. Ліда.

## *Ніл ГІЛЕВІЧ:*

# "Я заклінаю вас: не слухайце лжэпрарокаў, палітычных прайдзісветаў і авантурыстаў, якія абяцаюць нам рай у чужым шалашы!"

"Народная Воля"

Ахопленыя настальгіяй па мінулым, многія грамадзяне ўсю віну за развал СССР і ліквідацыю камуністычнага ладу на яго тэрыторыі ўсё яшчэ ўскладаюць на трох "белавежскіх зуброў". Гэтакія, ці бачыце, усясільныя валоты-валадары, што ў імгненне вока ліквідавалі самую вялікую і, бадай, ці не самую магутную дзяржаву — Саюз непарушны... Ну хоць бы ўспомнілі таварышы вучэнне марксізма-ленінізма аб рэвалюцыях — чаму і калі яны адбываюцца і перамагаюць. Ды калі б не было аб'ектыўных эканамічных і сацыяльна-палітычных умоў — ніякага "развалу" не адбылося б. Галоўных ініцыятараў "развалу" верны камунізму савецкі народ скруціў бы ў бараннi рог. Не кажучы пра 20-мільённую ідэйна маналітную КПСС, якая і сваімі сіламі справілася б. Але ў тым і справа, што народ "развальшчыкаў" не скруціў. Нават і не падумаў скруціць. Чаму? А таму што наіўна-сляпога камуністычна-савецкага народа ўжо не было. Ужо ён паспеў троху-патроху разуверыцца ў многім з таго, што яму дзесяцігоддзямі падавалася як "самае, самае, самае". А ў першую чаргу разуверыцца ў сваіх родных партыйна-савецкіх правадырах, — і вялікіх, і сярэдніх, і дробных. Народ паспеў разгледзець, што ўладу — на ўсіх узроўнях — ужо даўно трымаюць у руках перараджэнцы і прыстасаванцы з партбілетамі ў кішэнях, якія прывыклі раскашавацца за кошт незлічонай масы большменш прыстойна апранутых і ў цэлым негаладных грамадзян. Вядома, народ не змешваў з імі тых, што ў партыю ўступілі не дзеля асабістых выгад, не з кар'ерысцкіх інтарэсаў, а каб і ў жорсткіх таталітарных умовах лепш паслужыць людзям і Айчыне. У тым ліку і роднай Беларусі, імкненню беларускай нацыі ацалець, выжыць і не сысці з гістарычнай арэны ў небыццё.

Адна з галоўных прычын, чаму разваліўся СССР, — ліквідацыя... беларускіх школ і вынішчэнне беларускай мовы ў Беларусі. Калі хто з чытачоў паспеў, прачытаўшы гэта, іранічна ўсміхнуцца і нават успамянуць чорта — не спяшайцеся, калі ласка. Тым, што сказаў, я ўсяго толькі канкрэтызую тэму. Удумайцеся — і можа, вам не здасца сказанае мной такім ужо наіўным і смешным. Вынішчэнне беларускай мовы ў Беларусі (украінскай на Украіне, латышскай у Латвіі, казахскай у Казахстане, кіргізскай у Кіргізіі і г.д., і г.д., і г.д.) было вынікам — падкрэсліваю — *пэўнай дзяржаўнай палітыкі, вынікам планамерна ажыццяўляемага курсу на асіміляцыю, дакладней — на русіфікацыю ўсіх этнасаў на тэрыторыі СССР і на ўтварэнне адзінай "новай гістарычнай супольнасці — савецкага народа"* (з адзінай, канешне, рускай мовай, а значыць — на ўтварэнне ў рэшце рэшт адзінага рускага народа). Шляхі і спосабы асіміляцыі былі самыя розныя: выкарыстоўвалася натуральная і непазбежная эканамічна-вытворчая і навуковая інтэграцыя, наўмысна арганізоўваліся пэўныя міграцыйныя працэсы (дыфузія этнасаў), апрача таго — поўнае засілле рускай мовы ў інфармацыйнай прасторы (кнігадрукаванне, прэса, радыё, тэлебачанне), а яшчэ — шматмільённая рускамоўная армія з яе ваеннымі гарадкамі, адзіны рускамоўны КДБ і многае-многае-многае іншае. Можа, хто скажа, што ў СССР не адбываўся менавіта гэтакі асіміляцыйна-русіфікатарскі працэс? Што справа не вялася да канчатковага сцірання самабытных аблічча нацыянальных тэрыторый і да зліцця нацый з іх мовамі і культурамі ў адным катле? Толькі апошні бессаромны хлус стане адмаўляць гэта.

Іншая рэч, што кагосьці такая рэальнасць задавальняла. Маўляў, ну а што тут кепскага? "Зліёмся — і будзем жыць адным народам. Усе станем рускімі. Абы добра, заможна жыць, а ўсё іншае — яно сабе, можна змірыцца." Ну, гэта ўжо як і кім хто пачуваецца і якую долю зычыць свайму народу. Калі хто жадае яму пагібелі — іменна як народу, як этнасу, — тады ўсё зразумела. Але... "Ніхто не хацеў паміраць" — так называецца вядомы кінафільм літоўца Жалакявічуса. І ніхто ніколі не захоча паміраць, добраахвотна сыходзіць у магілу. Ніхто: ні адна нацыя, ніводзін — ні вялікі, ні малы — народ. І адчуўшы, што яго хочуць загнаць у магілу гвалтам, што жыццё яго робяць такім, каб ён выродзіўся і знік, што пад родным небам і на роднай зямлі яму не даюць быць самім сабою, — ён пачне супраціўляцца. Як толькі можа. Нават і гэтак, як у Чэчні. Так было адвеку. Так ёсць сёння. І так будзе заўсёды.

Мудрая руская прыказка кажа: "От добра добра не ищут". Калі б было добра — на душы і на сэрцы — у народаў, што ўваходзілі ў Саюз, калі б душа не курчылася ў муках ад крыўды і болю, бачачы, што нават мовы ўласнай яе пазбаўляюць, — ну навошта было б шукаць нейкага іншага, большага дабра? Але ж — пазбаўляюць! Дый яшчэ цынічна-здзекліва заяўляюць, што гэта вы самі адмаўляецеся, самі выракаецеся, самі не хочаце быць сабою. Яшчэ і рэферэндум дапамогуць арганізаваць. Як у нас — у Беларусі. Удумайцеся толькі, людзі добрыя: давайце, кажуць, ураўняем статус рускай мовы са статусам беларускай. Калі гэты тэарэтычны тэзіс перакласці на мову рэалій, то будзе гучаць так: давайце і рускую мову выганім адусюль гэтак жа, як выгналі беларускую. Пазайздросцілі статусу беларускай мовы! Божа прасвятлі!.. Давялі няшчасных людзей амаль да поўнага бяспамяцтва, пазбавілі нацыянальнай самасвядомасці, ператварылі ў манкуртаў, і прапануюць ім добраахвотна выявіць сваю волю наконт лёсу роднай мовы, наконт сваёй нацыянальна-гістарычнай сімволікі, наконт суверэннасці і незалежнасці сваёй краіны. Большага дзяржаўнага цынізму я за сваё жыццё не бачыў.

Вось пішу, можа быць, і ў соты раз аб гэтым — і зусім не ўпэўнены, што мае словы дойдуць да душы і сэрца тых, каму яны перш за ўсё адрасаваны. Дойдуць і зварухнуць сумленне, і прымусяць апомніцца і сказаць сабе, як сказаў на з'ездзе пісьменнікаў у Маскве сапраўды культурны рускі чалавек Сяргей Паўлавіч Залыгін: "То, о чем говорил здесь Нил Гилевич — это ужасно... Надо безотлагательно что-то делать, чтобы исправить положение, не дать умереть языку народа..."

Што ўзяліся "безотлагательно делать" нашы дабрадзеі ў Беларусі — мы ўжо бачым. Зноў усхадзіліся "ліквідатары". Ужо загадана кіраўнікам адукацыі у гарадах і вёсках рэспублікі забяспечыць права выбару мовы навучання ў дзяржаўных школах (падкрэсліваю — у дзяржаўных). На практыцы гэты выбар такі: беларускія класы ліквідуюцца, зараз ад бацькоў на беларускамоўнае навучанне не прымаюць. (Гл. "Сталіцу" за 30 чэрвеня г.г.). Пазіцыя больш чым ясная: можна тут жыць, працаваць, уладкоўваць свой дабрабыт — а мову гэтай зямлі ведаць неабавязкова. Лічыце, беларусы, сваёй дзяржаўнай мовай іншую — тую, што з'яўляецца дзяржаўнай у суседняй краіне. А мы пацюхупатроху будзем рабіць усё для таго, каб і дзяржавы аб'ядналіся, зліліся ў адну. Тады само сабою адпадзе і моўнае пытанне. Колькі ні цягнецца гэта цынічнае хітраванне, як ні прыхоўваецца, ні маскіруецца яно прыгожымі словамі аб свабодзе, аб роўнасці, аб брацтве, а мэта застаецца адна і тая ж: Беларусь павінна стаць "северо-западным краем" ці проста адною з губерняў Расіі. Тым больш што кандыдата на пасаду губернатара шукаць не трэба будзе. "А Марките толечко моргните", як пісаў славуты рэвалюцыйны паэт.

Недаацэнка моўнага фактара помсціць усім, нават і тым, а можа, і ў першую чаргу тым, хто стаіць на вяршыні піраміды. Мова — гэта магутная стваральная сіла. Мова — гэта тое, што аб'ядноўвае нацыю ў адно цэлае. Так ва ўсім свеце, у любой дзяржаве. У любой, але не ў нас. У нас мова не кансалідуе, а раз'ядноўвае. Кіраўніцтва дзяржавы робіць усё, каб праз мову гэтае раз'яднанне паглыбіць. Праведзены рэферэндум цалкам скіраваны на раскол нацыі, яго сумныя (і сумніўныя!) вынікі ўжо запрацавалі і будуць працаваць далей на раз'яднанне.

Некампетэнтнасць... Можа, і не самае дакладнае слова для характарыстыкі таго, што адбываецца на Беларусі. Можа, лепш падышло б нейкае іншае, не такое далікатнае слова. Калі кіраўніцтва дзяржавы не дапамагае свайму народу падняцца з каленяў, набыць пачуццё нацыянальнай годнасці, — што гэта? Калі кіраўніцтва дзяржавы не разумее глыбіннай сутнасці самой ідэі нацыянальнага адраджэння, яго філасофіі, — што гэта? Калі для кіраўніцтва дзяржавы найвышэйшы аўтарытэт у пытаннях нацыі, мовы, культуры — група жонак расійскіх афіцэраў, што завалодала тэлебачаннем і крычыць пра перавагі рускай мовы і рускай школы на Беларусі, — што гэта?.. Скажыце пра ўсё гэта прэзідэнту любой еўрапейскай дзяржавы і паслухайце, што ён вам адкажа.

Ды каб жа толькі кіраўніцтва дзяржавы стаяла на такіх пазіцыях! А пагляздзіце, як зашчыравалі на карысць рэферэндуму многія журналісты, як узяліся адпяваць — і з экрана, і ў перадавых артыкулах, і ў персанальных калонках — "нацыянал-радыкалаў"! Ура, нацыянальная беларуская ідэя пацярпела поўны крах!.. Пацярпела? Вы ў гэтым упэўненыя? Ну, што вы, што вы, панове! Ваша радасць зусім дарэмная. Беларуская ідэя не пацярпела і ніколі не пацярпіць краху, запомніце гэта. Крах жа фактычна пацярпеў учарашні дзень Беларусі. Падлічыце, шаноўныя, колькі — які працэнт — маладых людзей прагаласавала на рэферэндуме "за" — за другую дзяржаўную мову, за старую бальшавіцкую сімволіку і інш. Падлічыце, калі ласка. Можа, тады пратрацце вочы і задумаецеся над сваім творчым лёсам. Я сказаў "многія журналісты", так, многія, але, на шчасце, далёка не ўсе. Больш таго, шмат ёсць і такіх, што выдатна бароняць годнасць і гонар беларускай журналістыкі. Асабліва — маладыя майстры газетнага і эфірнага слова, якія я чытаю ці слухаю іншы раз проста з захапленнем. Паздароў іх, Божа, і дапамажы ім!..

У гэтай сітуацыі мяне, прызнаюся, здзіўляе і засмучае пазіцыя большасці беларускіх рэфарматараў, "рыначнікаў", прадпрымальнікаў, бізнесменаў. Логікі не бачу ў вашых памкненнях і дзеяннях, шаноўныя. Вы змагаецеся за дэмакратызацыю грамадства, за эканамічныя рэформы, за правы чалавека, але і за дзяржаўнае двухмоўе, за рускую мову як мову вытворчасці, афіцыйных службаў, навукі і г.д. Вам не хочацца вывучыць беларускую мову, каб перайсці на яе ў сваёй прафесійнай дзейнасці. Ну што ж! Будзеце карыстацца мовай, якой звыкла карысталіся дагэтуль, але ўжо не свабоднымі грамадзянамі, а паднявольнымі рабамі. Вы хочаце раз'яднаць, раскалавініць свабоду: нацыянальнай эканоміцы, прадпрымальніцтву, гандлю — свабода, а нацыянальнай мове, нацыянальнай культуры — няволя, палон, прыгнёт. Так не бывае, шаноўныя! Свабода не дзеліцца. Больш таго, пачынаць трэба са свабоды душы, з суверэннасці духу, а мова і ёсць душа народа. Толькі свабодная душа даб'ецца палітычнай незалежнасці для Бацькаўшчыны, у якой і будуць створаны ўмовы для развіцця нацыянальнай эканомікі, прадпрымальніцтва, сацыяльнай сферы, навукі і адукацыі, культуры і мастацтва.

Вядома, пытанне не ставілася і не ставіцца так, як многія пішуць і гавораць: неадкладна ўсім перайсці на беларускую мову! Нічога такога не было, ніколі такое не патрабавалася. Паглядзіце, пачытайце Закон аб мовах. Хіба тэрміны, якія ў ім адведзены на авалоданне беларус-



кай мовай, занадта жорсткія? Пяць-сем-дзесяць гадоў — гэта вельмі мала? Гэта можа быць мала толькі для тых, для каго і дваццаць, і трыццаць і сто гадоў мала, бо для іх ніякія тэрміны пераходу на беларускую мову непрымальныя. Зрэшты, з увагі на рэальную моўную сітуацыю, на тое, што з русіфікацыяй у нас зайшло надта далёка і выпраўляць становішча цяжка, — тэрміны па пэўных артыкулах Закона можна ж і павялічыць; той жа самы Вярхоўны Савет гэта спакойна зрабіў бы, не парушаючы прынцыпу, не збіваючы грамадства з прынятага курсу на нацыянальнае адраджэнне Беларусі. Але ж гэтак — давайце прадоўжым тэрміны! — пытанне нікім не ставілася; усе патрабаванні зводзіліся да аднаго: надаць і рускай мове статус дзяржаўнай! З вельмі зразумелых меркаванняў: гэтым самым беларуская мова, няздольная вытрымаць канкурэнцыю, будзе асуджана на пагібель і ёй ужо не дапамогуць ніякія тэрміны. Удар, які не ўдалося нанесці на сесіі пры прыняцці Канстытуцыі, нанеслі праз амаральна задуманы і арганізаваны рэферэндум.

Тое, што адбылося 14-га траўня 1995 года, — гэта, бясспрэчна, бяда, якая істотна ўскладніла і без таго цяжкае становішча незалежнай беларускай дзяржавы і яе народа. Але калі мы цяпер думаем, як наша становішча папраўляць, як дзейнічаць сёння і ў бліжэйшай перспектыве, каб не страціць сябе наогул, — трэба думаць пра бяду іншую, галоўную, без якое не было б і гэтай, "рэферэндумнай".

Галоўная бяда наша (калі не трагедыя) здарылася ў сакавіку 1994-га, калі Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прагаласаваў за прэзідэнцкую форму кіравання ў Беларусі. Гэта была найвялікшая і недаравальная памылка, нядобрыя, горкія, а то і страшныя наступствы якой мы будзем расхлёбваць роўна столькі, колькі гэтая форма дзяржаўнага кіравання ў нас будзе працягвацца. Ні ў якім разе, падкрэсліваю, ні ў якім разе нам, у Беларусі, нельга было гэта рабіць! Толькі парламенцкая рэспубліка! Прынамсі, на бліжэйшыя сто гадоў. Пакуль істотна не перайначыцца ў лепшы бок усё наша грамадства, не адродзіцца маральна, не ўздымецца духоўна і культурна. У крайнім выпадку маглі б "заклясці" ў Канстытуцыі прэзідэнта з чыста прадс-

таўнічымі функцыямі, як, напрыклад, у Германіі.

Па дарозе да таго злашчаснага галасавання, і на пасяджэннях Прэзідыума, і на нарадах у Старшыні Вярхоўнага Савета я выказваўся рэзка супроць прэзідэнцкай формы кіравання, і затым адмовіўся браць індывідуальны, "пад распіску", бюлетэнь для галасавання, за што быў "спляжаны" з трыбуны сесіі Вярхоўнага Савета на ўсю рэспубліку. На другі дзень пасля прыняцця новай Канстытуцыі ў інтэрв'ю газеце "Наша слова" (чыны яе не чытаюць) я патлумачыў сваю пазіцыю так (прашу прабачэння за самацытаванне): "Нам лепш мець формай дзяржаўнага кіравання парламент (...) Баюся, што прэзідэнт у нас хутка ператворыцца ў таго "бацьку з палкай", пра якога яшчэ Аляксей Талстой у сваёй "Истории государства российского" пісаў, маючы на ўвазе цара Пятра I. "Он молвил: мне вас жалко. Вы сгинете вконец. Но у меня есть палка. И я вам всем отец". Пры нашым узроўні культуры і грамадскай маралі атрымаць такога "бацьку з палкай" — небяспека зусім рэальная. (...) Пераможа той, хто ўсю сваю перадвыбарчую праграму пабудуе на спекуляцыі сацыяльнымі бедамі нашых людзей, на сацыяльнай дэмагогіі". І далей: "ёсць небяспека, што ў нас на прэзідэнцтва можа прабіцца вельмі нядобры чалавек, які ў сацыяльнай дэмагогіі стрымліваць сябе не будзе, абяцанняў будзе даваць шмат: "Вот давайце зломім-скрышым гэтых баламутаў-дэмакратаў, расправімся з імі канчаткова, навядзём парадак, і ўсё ў нас будзе выдатна!" А на аснове чаго будзе гэтае "выдатна"? На аснове тэрору? Калі не будзе каму сказаць слова праўды, тады лёгка будзе здаць краіну з усімі яе багаццямі суседняй дзяржаве." ("Наша слова" за 30 сакавіка 1994 г.).

На вялікі жаль, у сваіх трывожных прадбачаннях я не памыліўся. У ліпені 1994 года прэзідэнтам незалежнай Беларусі быў абраны чалавек, які тут жа абвясціў курс на аб'яднанне нашай дзяржавы з суседняй ("канфедэрацыя ці федэрацыя — гэта мы рашым пасля") і тут жа зброіў мову свайго народа, абазваўшы яе неразвітай і недасканалай. Вядома, гэтыя заявы першай дзяржаўнай асобы былі ўспрыняты цывілізаваным светам як нечуваныя і неверагодныя, як тое, што "проста ў галаве не ўкладваецца". Рэагаваннем сусветнай супольнасці на іх было не толькі вялікае здзіўленне, але і глыбокае расчараванне, і астуда ў памкненнях да партнёрства і супрацоўніцтва, і шчырае спачуванне беларускаму народу, якому зноў "страшэнна не пашанцавала". Расчараванне гэтае яшчэ больш паглыбілася пасля антыбеларускага і антыканстытуцыйнага рэферэндуму — акцыі сапраўды беспрэцэдэнтнай у гісторыі незалежных народаў. Падбіць мільёны недасведчаных у палітыцы людзей на тое, каб яны ўласнымі рукамі прыдушылі сваю родную мову і адрынулі сваю гістарычную сімволіку — канешне, на такую ініцыятыву патрэбна смеласць асобага роду. І не толькі ў ідэйна-маральным плане, але і ў эканамічным. Гэтай незвычайнай смеласцю у нас валодаюць многія. Пакінем на хвілінку маральны план убаку, пакіруемся інтарэсамі эканомікі. Помніце: "Кажуць, на замену сімволікі трэба вельмі шмат грошай. Хачу адказаць: прэзідэнт абяцаў сваім выбаршчыкам зрабіць гэта — і грошы на гэта знойдзе! Колькі б ні каштавала!" Так рашуча, агітуючы за рэферэндум, заявіў А.Р.Лукашэнка. Так рашуча, як бы справа ішла аб выратаванні жыцця цяжка хворых дзяцей. Ну, што ж, з ягонай вышыні лепш бачна фінансавае становішча краіны. І ўсё-такі хацелася б ведаць: дзе ж прэзідэнт іх знойдзе, гэтыя грошы? Дзе яны валяюцца — лішнія 1,5 трыльёна "зайчыкаў"? На мяжы поўнага паралічу эканоміка, тысячы дзірак-прарэх у сацыяльнай, экалагічнай, культурнай і іншых сферах, а тут — на чыстае палітыканства выкідваюцца казачныя сумы!..

Як сабе хочаце, шаноўныя грамадзяне, але калі і такое нас не бянтэжыць і не прымушае задумацца, то нам ужо не дапаможа ніхто. І спадзявацца на нейкае паляпшэнне нашага жыцця, нашага сацыяльнага становішча — звышнаіўнасць, каб не сказаць мацней.

Дэпутаты Вярхоўнага Савета "старога" склікання сёння абураюцца парушэннем Канстытуцыі, пратэстуць супроць курса на дыскрэдытацыю і ліквідацыю заканадаўчай улады. Правільна: Канстытуцыю і законы трэба паважаць, — пратэст справядлівы. Але скажыце, шаноўныя калегі, дзе вы былі і што думалі 13-га красавіка, калі галасавалі за рэферэндум, у тым ліку — за яго чацвёрты пункт? Чым тады кіраваліся — якімі пачуццямі, якімі клопатамі? Тады вы не бачылі ўсю недарэчнасць, неразумнасць і марнасць навязаных ініцыятыў? Бачылі, канешне. Але... Лепш у тартарары, лепш агнём і дымам хай пойдзе ўсё жыццё наша, а толькі не зробім так, як прапануюць апазіцыянеры і "нацыяналісты"! Вось такая дзяржаўная мудрасць, такая логіка, такая смеласць... Ці сапраўды ўжо нейкае ачмурэнне найшло на нас і паралізавала нашу волю? Бо што яшчэ застаецца думаць, калі дарослым дзяржаўным мужам не хапае розуму нават на тое, што і дзецям малым зразумела: нельга, ну нельга ж, жабруючы і просячы дапамогі ў свеце, выкідваць на вецер — на вяртанне старой бальшавіцкай сімволікі — садраныя з падаткаплацельшчыкаў мільярды!

Куды ж мы ідзём, якое жыццё, які лад у сваёй краіне будуем, якую Беларусь хочам мець? Калі мы сапраўды хочам усталяваць на сваёй зямлі добры лад, годнае чалавечае жыццё — мусім зразумець адно: дасягнуць гэтага можна толькі на грунце беларускай ідэі, толькі ў сваёй незалежнай нацыянальнай дзяржаве. Пацвярджэннем гэтаму — гістарычны лёс як тых незалежных краін, якія ўжо даўно дасягнулі высокага дабрабыту, так і тых, якія хутка яго дасягнуць (Эстонія, Латвія, Літва). Выхаду з цяжкага крызіснага становішча трэба вучыцца ў тых, хто ўжо з яго выйшаў або паспяхова выходзіць. Не капіраваць, а вучыцца. Ці мы, беларусы, вучыцца ўжо нyздольныя? Пры гэтым — будзем трымацца свайго ўласнага шляху, абавязкова ўлічваючы ўсё, што складае адметнасць нашай гісторыі, нашага менталітэту, нашага эканамічна-гаспадарчага досведу, нашага геапалітычнага становішча. Асабіста я ўпэўнены, што мы зробім свой беларускі дом заможным і ўтульным, калі ў аснову эканамічна-сацыяльнай праграмы закладзём усебаковую і ўсемагчымую стымуляцыю прадукцыйнасці працы і росту вытворчасці, абароненую законам свабоду творча-гаспадарчай ініцыятывы, а таксама — бясплатную адукацыю, бясплатнае карыстанне паслугамі медыцыны, даступную для ўсіх цану на кнігі, часопісы, газеты, тэатры, канцэрты і кіно. Без апошняга — без клопату пра духоўны рост асобы — усё астатняе траціць сэнс.

# Вялікі сход каля гары Кіліманджара

*Развагі з нагоды пашыранай калегіі Міністэрства замежных справаў*

"Свабода"

Дасведчаныя людзі ў адзін голас сцьвярджаюць, што ў Беларусі няма суцэльнай канцэпцыі знешнепалітычнай дзейнасьці. Ёсьць нейкія дробныя кавалкі часовых інтарэсаў, як эканамічных, так і чыста палітычных, што ў пэўны сюжэт ніяк не складаюцца. Канцэпцыя — гэта курс, стратэгічная праграма, якую павінна распрацаваць і зацьвердзіць палітычная эліта грамадзтва. Каб потым яго ажыцьцяўляць адкрыта і патаемна, як гэта робяць у большасьці краінаў. У нас эліта расколатая нават не на дзьве, а на чатыры, восем ці болей частак, сярод якіх прэзідэнцкая займае месца ня самае пачэснае, і таму невыпадкова, што канцэпцыі няма.

Да Аляксандра Лукашэнкі нейкую канцэпцыю спрабаваў пабудаваць Вячаслаў Кебіч, але адклаў гэтыя справы на потым, пасьля перамогі на прэзідэнцкіх выбарах. У якасьці платы за дапамогу былы прэм'ер абяцаў сваім бліжэйшым памочнікам пасады паслоў (асабіста ведаю некаторых, што ўжо пачалі было вывучаць італьянскую ды галандскую мовы). Але з гэтых планаў выйшаў "пшык" — будучых паслоў, якія больш стралялі па галандскіх "качках", паскарачалі ды пазвальнялі. А што ж гэта за канцэпцыя, калі ня вызначаныя дзеючыя асобы?

Аляксандар Лукашэнка неўзабаве пасьля прыходу да ўлады аддаў нарэшце загад рыхтаваць дзяржаўную канцэпцыю знешнепалітычнай дзейнасьці. Толькі і з гэтай спробы зноў пакуль што нічога не атрымалася. Па-першае, кіраўніцтва самое ня вызначылася, што ёсьць Беларусь у сьвеце і куды яна крочыць. Па-другое, нашыя хістаньні то на ўсход, то на поўдзень, то на захад стварылі вобраз нейкай карыкатурнай дзяржавы. Як сказаў адзін вядомы дыпламат, мы хворыя і на панславізм, і на антыатлантызм, і на антысэмітызм. І ўсяго патрошку, бяз жорстка вызначанай мэты. Прычым сам жа прэзідэнт і зьяўляецца аўтарам большасьці з гэтых хістаньняў. Лукашэнка пакідае зьнешнепалітычнаму ведамству няўдзячную місію тлумачыць сьвету, што ён на самой справе меў на ўвазе, калі ў чарговы раз некага выпадкова пакрыўдзіў. "Хаця вы чалавек з усходу, але мы цэнім вас як вельмі сур'ёзнага еўрапейскага палітыка", — гэтае выказваньне Лукашэнкі ў адрас высокага госьця з Кітаю яскрава паказвае, што ў нас увогуле няма зьнешнепалітычнай пазіцыі. Мы ня можам быць проста ветлівымі да аднаго з бакоў. Абавязкова трэба адначасова абразіць супрацьлеглы.

Калі гэтак паводзіць сябе хтосьці з жыхароў камунальнай кватэры, дык рана ці позна яго пачынаюць ненавідзець усе. І тыя, з кім ён быццам сябраваў. Мы гэтага дамагаемся?

Тое, што наш зьнешнепалітычны карабель "бяжыць сабе па хвалях" без стырна, відаць па нашых апошніх "паваротах" на поўдзень. Падзьмуў слабенькі ветрык, запахла прыбыткамі ад гандлю зброяй, і нас ужо панесла да Ірана, у якога з цывілізаваным сьветам адносіны вельмі своеасаблівыя. ЗША ўжо выказалі вялікую занепакоенасьць нашай зацікаўленасьцю гандляваць з Іранам зброяй. Але што нам з таго? Схаваўшыся за сьпіну ўсходняга суседа, які апошнім часам таксама запабягае перад Іранам, нашае кіраўніцтва робіць выгляд, што нічога кепскага не адбываецца. Між тым амэрыканцы занепакоеныя магчымым продажам Ірану менавіта канвэрсійнай зброі, танкаў і машын пяхоты, а ня проста запчастак ці нейкіх камплектуючых. Пытаньне: ці ЗША для нас ужо тая краіна, з якой ня страшна сапсаваць адносіны на карысьць Ірану? Ці нам ужо не патрэбная амэрыканская дапамога, аўтарытэт на міжнароднай арэне, велічыня якога залежыць менавіта ад адносінаў з гэтай дзяржавай?

Так, бюджэт Беларусі трашчыць па ўсіх швох. Сёньня, па дадзеных назіральнікаў да кіраўніцтва крыніцаў, ён амаль на 30% напаўняецца за кошт продажу ўсялякага ўзбраеньня. Рабілася гэта і пры Кебічы, але ніколі — так нахабна, ніколі — з такімі палітычнымі стратамі.

Здаецца, гэта робіцца дзеля пэўнага эканамічнага выйгрышу. Чаму б не прадаць зброю, запчасткі, вайсковыя цягачы ў той жа Іран, ці Індыю, ці Кітай, калі за гэта плоцяць грошы? Але глядзіце, што атрымліваецца. Кітаю мы патрэбныя як пастаўшчыкі запчастак да вайсковай тэхнікі, сярод якой нават самалёты, бо кітайскае войска ўзброенае тым, што калісьці пастаўлялася з СССР ці скапіравана з узораў яго ўзбраеньня. Нам жа патрэбныя кітайскія "мірныя" тавары: шырспажыў і ўсё іншае. Але Кітай пастаўляць гэтыя рэчы па бартару ўжо ня хоча, бо мясцовыя вытворцы знаходзяць больш выгодныя рынкі збыту. Яны хочуць атрымоўваць за свой шырспажыў канвэрсаваную валюту. І гэта зразумела. Каб потым мадэрнізаваць сваю вытворчасьць і выпускаць яшчэ лепшыя тавары. А мы закансэрвуем сваю вытворчасьць на ўчорашнім узроўні, калі "прышпілім" яе да кітайскага рынку ўзбраеньня.

Тое ж самае адбудзецца, калі пайсьці па такім жа шляху ў адносінах з Іранам, Індыяй, Віетнамам ды іншымі азіяцкімі дзяржавамі, зацікаўленымі ў падтрымцы ўзбраеньняў, створаных на савецкі ўзор. Першачарговы выйгрыш можа ў выніку прывесьці да пройгрышу. Каб гэтага не адбылося, патрэбная ўсебакова распрацаваная канцэпцыя. Мы мусім адказаць на пытаньне: ці трэба нам рабіцца "майстэрняй зброі" для паўднёвых краінаў і надалей залежаць ад сёньняшніх пастаўшчыкоў металу і энэрганосьбітаў? А можа, лепей ператварыцца ў краіну сучасных высокіх тэхналогіяў, набыць сапраўды мірны імідж? Але для гэтага трэба вызначыць, з кім лепш сябраваць сёньня, каб не апынуцца без сяброў заўтра.

Памятаеце, як шырока рэкламаваўся "трактарны" кантракт з Пакістанам? Зараз пра яго маўчаць, бо хваліцца няма чым. Няма ані эканамічнага, ані палітычнага прыбытку. Але такі сумны вынік быў прадказальны яшчэ напачатку, бо як жа інакш ставіцца да краіны, якая прадае свае тавары за паўцаны. Запытайцеся на стадыёне "Дынама", як глядзяць там на такіх гандляроў? А мы чакалі нечага іншага...

Поўдзень, усход — гэта не адзіныя прыклады памылак ці нават паразаў Беларусі. Ёсьць яшчэ цэлыя мацерыкі, дзе нас проста няма. І таму пра памылкі няма казаць няёмка. Але што ж гэта за палітыка, калі ў нас дагэтуль няма амаль ніякіх палітычных кантактаў з краінамі Цэнтральнай ды Паўночнай Амэрыкі, з якімі ўдала стасуецца і гандлюе ўвесь сьвет? У Нікарагуа добра ідуць нашыя трактары, але ўсе кантакты наладжваюцца цераз расейскую амбасаду. Між тым гэтая цэнтральнаамэрыканская краіна магла б стаць нашым плацдармам для штуршка на ўсю Цэнтральную Амэрыку і на поўдзень. "Пакуль мы тут цалкам залежым ад расейскіх дыпламатаў, яны не дадуць нам, беларусам, праводзіць выгодную для нас эканамічную палітыку", — так лічыць спэцыяліст, які шмат часу аддаў дзеля продажу нашых трактароў у Нікарагуа. Гэта ж тычыцца Калумбіі, Чылі ці Аргентыны, з якімі ў нас могуць быць выгодныя партнэрскія адносіны як у вытворцаў калійных соляў і інш.

Але што глядзець так далёка, калі побач зачыняюцца тыя дзьверы, што яшчэ нядаўна былі расчыненыя. Я маю на ўвазе Прыбалтыку, ад якой мы адгарадзіліся ўжо даўно высачэзнымі тарыфамі — напрыклад, на якасную мясцовую мэблю, электроніку, тканіну, адзеньне. Я маю на ўвазе Польшчу, у якой тое ж харчаваньне ці будматэрыялы каштуюць таньней, чым у Беларусі, але закупляць мы іх ня можам. Зноў жа з-за нашых тарыфаў. Хаця цэмэнт у Польшчы ўжо ў тры разы таньнейшы за наш! Я ўжо не кажу пра аўтамабілі замежнай вытворчасьці, якіх мы самі сябе пазбавілі, бо далучыліся да расейскіх пошлінаў. Але мы пазбавіліся ня толькі аўтамабіляў, але і ўвагі вядучых аўтабудаўнічых канцэрнаў. Наво-

Паважаныя суайчыннікі, людзі зямлі беларускай! На схіле гадоў сваіх — я заклінаю вас: не слухайце лжэпракокаў, палітычных прайдзісветаў і авантурыстаў, якія абяцаюць нам рай у чужым шалашы! Не дайце ўвесці сябе ў зман, каб не страціць свае найвялікшыя святыні, а перш за ўсё нашу Богам дадзеную нам мову! Верце толькі тым і ідзіце толькі за тымі, для каго свабода і незалежнасць Беларусі даражэй за ўсё на свеце!

шта ім цяпер змагацца за рынак, дзе іх ставяць у невыгодныя ўмовы? Такім чынам, наколькі мы адчыніліся на ўсход, настолькі ж зачыніліся на захад, адкуль заўсёды да нас ішлі цывілізацыя ды культура. А гэта ўжо ня проста эканоміка, гэта вышэйшая палітыка, на якую ня можа ня ўзьдзейнічаць Міністэрства замежных справаў.

Але як яму гэта рабіць? Так, Уладзімер Сянько — добры міністар. Ці, скажам больш дыпламатычна, добры міжнародны чыноўнік высокага ўзроўню. Ён добра гуляе ў тэніс, ведае ангельскую і нават беларускую мовы, мае белазубую ўсьмешку. Але ці можна яго лічыць сапраўдным міністрам замежнай палітыкі, калі няма замежнай палітыкі? Гэткія водгукі даводзіцца чуць сёньня. Можа, надалей што зьменіцца? Кажуць, ужо б зьмянілася, калі б Сянько паказаў свае белыя зубы яшчэ тады, калі на пасаду яго першага намесьніка прызначылі без узгадненьня з ім Валерыя Цэпкалу. Але ён гэтага не зрабіў. І цяпер каля прэзідэнта на важных міжнародных сустрэчах мы часьцей бачым не міністра, а яго першага намесьніка. Калі мінулым летам пераможцы дзялілі партфэлі, Цэпкала адмовіўся ад прапановы адразу стаць міністрам. Цяпер, калі прайшоў год, калі ён прызвычаіўся да сваёй новай ролі, калі яго ведаюць ня толькі ў расейскіх вышэйшых установах, але і за "далёкай" мяжой, можа, і пагодзіцца. Хаця, з іншага боку, чаго здымаць Цэпкалу, калі і Сянько на сваім месцы? Ва ўсялякім разе, міністэрства пашыраецца, замежныя пасланьнікі ня толькі жывуць, але і працуюць — служыць да ЦРУ ніхто не перабег, нягледзячы на утрыманьне, якому не пазайздросьціць апошні заходні беспрацоўны.

Канечне, дыпламатычны корпус пазбавіўся некалькіх вядомых асобаў, якія сталі прызнанымі прафэсіяналамі. Пятро Краўчанка, Генадзь Бураўкін, Пятро Садоўскі, нядаўна да іх далучыўся і Георгій Таразевіч... Іх магутны патэнцыял, аўтарытэт, сувязі дзяржава не скарыстоўвае. І я прадбачу, што некаторыя кіраўнікі МЗС гэта не ўхваляюць. Бо ведаюць, як няшмат у нас сапраўдных прафэсіяналаў. Але што яны могуць зрабіць, калі, як кажуць, "крок улева, крок управа — расстрэл"? Ну і потым — на падыходзе новыя кадры. Кажуць, у Нямеччыну паслом можа паехаць Леанід Сініцын, а ў Лондан могуць адправіць Станіслава Багданкевіча. Так бы мовіць, сашлюць далей ад нашых цэнтрыстаў-дэмакратаў. Хапіла б толькі амбасадаў усім, каго трэба ці пакараць, ці, наадварот, ашчасьлівіць. Вось гэта і ёсьць у нас пакуль замежная палітыка: каго і куды ўвапхнуць, каб усе былі задаволеныя.

Дакладна ведаю, што пасьля леташняй пашыранай калегіі пасла сталі ў чаргу, каб пагутарыць сам-насам з прэзідэнтам, засьведчыць яму свой дыпламатычны "кніксэн". Па сваёй ініцыятыве сталі. Не пайшоў да прэзідэнта на паклон толькі адзін дыпламат. І не таму, што ён мала "паезьдзіў па Эўропах", наадварот, таму, што там гэта не прынята — ісьці да вышэйшай асобы без пэрсанальнага выкліку. Зараз ён ужо не дыпламат. Ну і што?

А вось і тое. Зьнешняя палітыка па-беларуску — так гэта завецца.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

# БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

**Сёння ў гэтай рубрыцы змешчана інфармацыя аб сярэдняй працягласці жыцця ў розных краінах свету, а ў тым ліку і ў Беларусі. Гэты паказчык сведчыць не толькі аб узроўні медыцынскага абслугоўвання насельніцтва пэўнай краіны, чысціні экалагічнага асяроддзя, але і аб існуючых сацыяльна-эканамічных умовах жыцця. Застаецца толькі дадаць, што згодна з паведамленнем аддзела дэмаграфічнай статыстыкі Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, беларускія жанчыны жывуць болей за мужчын амаль на 10 гадоў — 74,3 і 64,6 гадоў адпаведна.**

**P. S.** Графік складзены паводле даных аддзела дэмаграфічнай статыстыкі Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, Цэнтра медыцынскіх тэхналогій, інфармацыі, экалогіі і ўпраўлення аховы здароўя Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

**Рубрыку вядзе Юрась НАВУМЕНКА.**




ЛІДЭР БНФ Зянон Пазьняк узяў шлюб з Галінай Вашчанка. Вянчанне адбылося ў касцёле святога Станіслава ў Магілёве. Г. Вашчанка займаецца дабрачыннай дзейнасцю ў адным з чарнобыльскіх фондаў, з'яўляецца дэпутатам Мінскага гарадскога Савета. У ЗАГСе шлюб пакуль што не зарэгістраваны.

*ПОГЛЯД З АМЕРЫКІ*

*Янка ЗАПРУДНІК:*

# «Беларуская нацыя ўваходзіць у новую фазу свайго развіцця»

***У сярэдзіне ліпеня ў Мінск з ЗША прыбыла група беларусаў, нашых суайчыннікаў з гарадоў Нью-Брансвік, Саўт-Рывер, а таксама з канадскага Віціпега. У саставе групы былі 34 чалавекі, хаця меркавалася, што будзе значна больш. Сярод іх — вядомы дзеяч беларускай эміграцыі, журналіст, вучоны і паэт Янка Запруднік. Доўгія гады гэты чалавек разам з Вітаўтам і Зорай Кіпелямі, Антонам Шукелойцам рэдагуе газету «Беларус», старэйшую на эміграцыі беларускую газету, якая з'яўляецца летапісам жыцця беларускай эміграцыі і адначасова летапісам асноўных падзей на Бацькаўшчыне.***

***Янка Запруднік — вельмі аўтарытэтны ў амерыканскім навуковым асяроддзі вучоны, да якога звяртаюцца шматлікія навуковыя і інфармацыйныя цэнтры як да спецыяліста па гісторыі Беларусі. Так, у апошні час ён падрыхтаваў артыкулы пра Беларусь для канадскай энцыклапедыі «Народы Еўразіі», для кніжкі, прызначанай для дыпламатаў, што рыхтуе Кангрэсовая бібліятэка Кангрэса ў Вашынгтоне, для 4-томнай энцыклапедыі дэмакратыі. У Мінску рыхтуецца да выдання кніжка Янкі Запрудніка «Беларусь на гістарычных скрыжаваннях». Цікавая яна будзе не толькі аналізам даўнейшых гістарычных падзей, але і тых, што адбываліся ўжо ў наш час, у пачатку 90-х гадоў. У сваіх гістарычных нарысах Янка Запруднік вялікую ўвагу ўдзяляе ідэі беларускай дзяржаўнасці, увогуле беларускай ідэі.***

Паколькі гэта тэма надзвычай актуальная цяпер для беларускага грамадства, я папрасіла Янку Запрудніка пачаць нашу гаворку менавіта з таго моманту, як ён разумее беларускую ідэю ў кантэксце сённяшніх падзей і беларускіх рэалій.

— Ідэя беларускай дзяржаўнасці — даўняя ідэя. Полацкае княства — гэта была форма беларускай дзяржаўнасці. У Вялікім княстве Літоўскім мы былі дзяржаўным народам, не адзіным, але дзяржаўным разам з іншымі народамі.

Ідэя дзяржаўнасці падмацоўвалася на працягу гісторыі ў 1918—1991 гадах, а цяпер выглядае, што яна адкінута назад некаторымі падзеямі, што адбыліся нядаўна. І з пункту погляду фармулявання гісторыі беларускай ідэі сёння мы на нейкім такім этапе, дзе трэба варочацца ў мінуўшчыну. Гэта значыцца да тых ідэалаў, якія былі выстаўлены, скажам, у 1917 годзе І Усебеларускім кангрэсам і пасля — Актам 25 сакавіка. І навакольны свет сёння глядзіць на падзеі ў Беларусі як на нейкі свайго роду крок назад.

**— Якія зараз настроі ў беларускай эміграцыі? Мы чулі пра падзеі ў Лондане, калі беларуская эміграцыя адмовіла ў памяшканні для беларускага прадстаўніцтва. Якім чынам беларуская эміграцыя, скажам, у ЗША, збіраецца кантактаваць з беларускай дзяржавай, якія нюансы паводзінаў яна акрэслівае для сябе, якую выпрацоўвае канцэпцыю?**

— Напрыклад, у Кліўлендзе, дзе ёсць вялікая беларуская грамада — цэнтр культурны і рэлігійны «Полацак», — збіраліся на Беларусь сёлета прыехаць колькі дзесяткаў асоб. Я гэта ведаю. Як пайшлі гэтыя рэферэндумы, адмаўленні ад сваёй нацыянальнай сімволікі, людзі з Кліўленда проста не паехалі сюды. У Саўт-Рывеpы, у Нью-Брансвіку ў ваколіцах Нью-Йорка мне таксама казалі, што пасля рэферэндуму адразу чалавек 10 паведамілі, што яны на Беларусь не едуць. Людзі баяцца, ходзяць чуткі самыя розныя. Людзі адмоўна ставяцца да прагаласавання Вярхоўным Саветам угодкаў кастрычніцкай рэвалюцыі як беларускага нацыянальнага свята.

**— Адкуль вы ў ЗША атрымліваеце інфармацыю пра падзеі на Беларусі?**

— З тае ж «Звязды» ці «Народнай газеты», са «Свабоды», з гродзенскай «Пагоні», з іншых выданняў... Шмат хто слухае радыё, мінскія радыёперадачы, што вядуцца спецыяльна для замежжа, перадачы радыё «Свабода» чутны ў Амерыцы... Нашы людзі даволі паінфармаваны таксама з амерыканскіх крыніц. Амерыканскія газеты шырока пісалі пра збіванне дэпутатаў, якія галадалі ў Вярхоўным Савеце. Безумоўна, і пра рэферэндум, адзначалася, што ён праводзіўся ва ўмовах несвабоды.

**— Рэферэндум, які адбыўся, можа быць, расставіў многія рэчы на свае месцы. У тым плане, скажам, што БНФ меў некаторыя ілюзіі наконт рэальнай сітуацыі ў сваёй краіне. І, можа быць, гэтым самым уводзілася ў зман і грамадскасць — я маю на ўвазе замежную. Але кожнаму чалавеку, мне здаецца, трэба цяпер усвядоміць самога сябе ў гэтым новым грамадстве, шлях грамадства далей, які абумоўліваў бы дынамічнае, паступовае развіццё.**

**Якая роля належыць у гэтым прэсе?**

— Прэса тут заціснутая. Паводле прэсы можна меркаваць, што робіцца на тэлебачанні. Зрэшты, я памятаю, я тут быў, калі летась адбываліся прэзідэнцкія выбары, я бачыў, што рабілася на Беларускім тэлебачанні, — наколькі яно ўслужлівае было Кебічу. І ні пра што іншае, ні пра кога іншага я не чуў па тэлебачанні, як толькі пра Кебіча. Цяпер, відаць, Лукашэнка фігуруе на тэлебачанні, і больш ніхто. Сродкі масавай інфармацыі — бясспрэчна, гэта фактычна мазгі нацыі. Калі народ мае нейкі талент, то ён павінен выяўляцца праз свабоду прэсы. Няма прагрэсу там, дзе няма крытыкі. Крытыка неабходная. Гэта старая спадчына таталітарнага ладу — хваліць, хваліць, хваліць, захвальваць.

Прэзідэнт Лукашэнка павінен гэта зразумець і даць магчымасць кожнаму выказвацца свабодна і крытычна пра палітыку ўрада і пра парадкі. Толькі тады можна будзе спадзявацца, што прагрэс будзе ісці наперад.

**— У свой час беларуская палітычная эміграцыя рабіла нямала для таго, каб Беларусь стала свабоднай краінай. Зараз Беларусь як быццам вольная. Але, тым не менш, існуюць некаторыя абставіны, якія дазваляюць меркаваць, што як быццам бы і не вольная.**

**Якое зараз месца беларускай эміграцыі ў тым працэсе стварэння дзяржаўнасці, пабудовы краіны?**

— Перш-наперш трэба ўсведамляць, што беларуская эміграцыя невялікая. Так. Вось мы маем прыклад сёння — прыехалі 34 асобы з ваколіц Нью-Брансвіка, Саўт-Рывера, мы прывезлі сюды 9 пакетаў медыкаментаў для ахвяр Чарнобыля. Беларуская эміграцыя мае пэўны ўплыў на мысленне афіцыйнага Вашынгтона. Праз кангрэсменаў-сенатараў мы маем добрыя магчымасці інфармаваць адказных за фарміраванне амерыканскай палітыкі ў дачыненні да Беларусі. І я думаю, што бізнесмены, амерыканскія, не абавязкова беларускія, хоць ёсць і беларускія бізнесмены, — таксама ўстрывожаны тымі падзеямі, якія адбываюцца тут. Пагрозай нацыяналізацыі банкаў, напрыклад, і падобнымі рэчамі. Беларуская эміграцыя мае ўплыў на фарміраванне амерыканскай палітычнай думкі. Асабліва праз сваіх заканадаўцаў. І я думаю, што цяпер асабліва адчуваецца зацікаўленне афіцыйнага Вашынгтона падзеямі на Беларусі праз кантакты амерыканцаў беларускага паходжання, якія, як выбаршчыкі, заўсёды маюць доступ да сваіх заканадаўцаў.

**— Як асабіста вы, спадар Запруднік, ацэньваеце сённяшнюю сітуацыю?**

— Я веру ў беларускую прымаўку: няма таго благога, каб на лепшае не выйшла. Я спадзяюся на маладых людзей, якія больш-менш ведаюць праўду пра мінуўшчыну Беларусі, якія гадуюцца ў новых абставінах і якім адкрылі крышачку дарогу да пазнання і беларускай культуры, і беларускай мінуўшчыны, і якія, хоць бы сабе ў гэтых абмежаваных умовах свабоды, і ўсё ж такі свабоды, — бо газета «Свабода» выходзіць жа сёння ў Мінску, якая крытычная яна ні ёсць, але ўсё ж выходзіць — і гэта вельмі добра. Мы сюды ехаць некалі не маглі і думаць, я са сваім братам не мог ліставацца, я баяўся пасылаць яму лісты — ён баяўся ад мяне іх атрымоўваць. Сёння мы прыязджаем, сёння мы бачымся. Сёння мы жывём у новую эпоху. І маладая беларуская інтэлігенцыя, будучыя выбаршчыкі Беларусі, яны — я веру ў гэта — справы наладзяць і павядуць да лепшага.

Як вынікае са слоў Янкі Запрудніка, сённяшняя грамадска-палітычная сітуацыя ў Беларусі стала своеасаблівым водападзелам у асяроддзі беларускай дыяспары. Зацікаўленасці Беларуссю не стала меней. Хутчэй, наадварот. У пэўным сэнсе яна абвастрылася ў выніку той драмы, якая разгортваецца на Беларусі. Адны людзі свой пратэст, нязгоду і неадабрэнне выказваюць тым, што адмаўляюцца кантактаваць з Беларуссю, а другія лічаць, што менавіта ў гэты цяжкі момант неабходна быць разам са сваім народам, з тымі людзьмі, якія змагаюцца за свабоду і суверэннасць беларускай дзяржавы.

Беларуская нацыя, на думку Янкі Запрудніка, уваходзіць цяпер у новую фазу свайго развіцця. Адбываецца ў пэўным сэнсе ідэйнае расслаенне грамадства: у адным кірунку ідуць людзі старэйшыя, тыя, што з'яўляюцца носьбітамі старой ідэалогіі, старых поглядаў, у другім — вялікая частка інтэлігенцыі, моладзь, якая гадавалася ў новых абставінах і якая ўжо пайшла па дарозе пазнання і беларускай культуры, і беларускай мінуўшчыны.

**Таццяна АНТОНАВА.**

ЗВЯЗДА

# *“Гналі людзей, як быдла, на забой”*

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ**

Калі параўнаць сёлетнія публікацыі ангажыраваных сродкаў масавай інфармацыі, прысвечаныя святу Перамогі і Дню вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў з тым, што яны пісалі пра гэтыя падзеі 5, 10, 20 і больш гадоў таму, дык цяжка заўважыць якія-небудзь істотныя зрухі. Як і раней, уся ўвага канцэнтруецца на гераізме, а іншы раз і на ахвярнасці. Асабліва ахвотна гэта робяць самі былыя франтавікі і партызаны. Праўда, з пачатку 90-х гадоў стала менш выпінацца, прынамсі, адкрытым тэкстам, роля партыі ў перамозе. Аднак апошнім часам зноў пачалі вяртацца да нас, здавалася б, ужо аджыўшыя ідэалагічныя догмы і развянчаныя агітпропаўскія міфы. Даруй Божа, я зусім не супраць паказу мужнасці і адвагі тых, хто змагаўся з ворагам, у тым ліку камуністаў. Але дзе ж адваротны бок медаля, без якога не можа быць поўнай праўды аб вайне? І каму, як не нам, удзельнікам і сведкам даўніх падзей, белае называць белым, а чорнае — чорным? Тым самым мы падтрымаем гісторыкаў і публіцыстаў, якія непрадузята глядзяць на Вялікую Айчынную.

...Як ні парадаксальна, але першы дзень вайны з фашысцкай Германіяй асабіста я сустрэў, пэўна, з лепшым настроем, чым апошні. Чаму так? У сорак першым быў школьнікам, які свята верыў тагачасным лозунгам-абяцанням: на ўдар адкажам трайным ударам; ні аднаго вяршка сваёй зямлі не аддадзім нікому; наша армія будзе біць ворага на яго тэрыторыі і г.д. Што датычыцца непазбежных на вайне страт, дык пастулат быў такі: будзем ваяваць "малой кроўю". Гэта азначала, што за адно жыццё "нашего драгоценного человека" трэба "получить" ні больш ні менш, як 20 жыццяў ворагаў. Лічбу гэтую ўвёў нам у вушы на 18-м, апошнім перадваенным, партз'ездзе "первый маршал" К.Варашылаў.

Не дзіўна таму, што большасць з нас, хто ў першы дзень вайны прыйшоў у сваю школу, каб падрыхтаваць яе для размяшчэння шпіталя, шчыра спадзяваліся на хуткае і поўнае знішчэнне фашыстаў. Працавалася нам добра і весела (выносілі парты з класаў); сёй-той напяваў бадзёрую песню пра тое, як "первый маршал в бой нас поведет". І ў самым кашмарным сне нельга было ўявіць, што ў тыя ж хвіліны не так ужо далёка ад нашай Оршы пачало спраўджвацца варашылаўскае прадказанне наконт страт ваюючых бакоў амаль што з дакладнасцю да наадварот.

Міфамі аказаліся і астатнія абяцанні "вождей". Так, падчас вайны сапраўды былі моцныя ўдары, якія называліся "сталинскими", а завяршылася яна на тэрыторыі ворага поўным яго разгромам (дарэчы, нам дапамаглі саюзнікі — капіталістычныя дзяржавы, а не заходні пралетарыят з яго "всеобщим восстанием", на што спадзяваліся партыйныя прапагандысты). Аднак мы ніколі не ваявалі "малой кроўю" — яна была "вялікай" не толькі ў першыя месяцы, але і ў апошнія гады вайны, калі ў нас было ўжо дастаткова баявога вопыту і мелася перавага ў ваеннай тэхніцы.

Горш за ўсё тое, што Чырвоная Армія часцяком цярпела вялікія страты і тады, калі іх можна было пазбегнуць. Франтавікам няцяжка нагадаць і шматлікія штурмы гарадоў і ўмацаваных пунктаў, прымеркаваныя да рэвалюцыйных свят; і стральбу па сваіх, калі яны знаходзіліся ў акружэнні; і ўдзел у баях пад "прыкрыццём" загараджальных атрадаў з тылу неабучаных, а падчас і неабмундзіраваных хлопцаў, мабілізаваных на вызваленай тэрыторыі... Усяго не пералічыць. Лепш звернемся да малавядомага, аднак красамоўнага выказвання маршала Г.Жукава.

У нядаўна выдадзенай у Маскве невялікім накладам кнізе пра Сталіна "Портрет тирана" яе аўтар А.Антонаў-Аўсеенка — сын аднаго з кіраўнікоў кастрычніцкага перавароту 1917 г. — распавядае пра такі выпадак. Аднойчы пасля 20-га з'езда КПСС, дзе пачалася дэсталінізацыя грамадства, на пленуме ЦК зайшла гаворка пра мінулую вайну, пра тое, як некаторыя члены палітбюро, паводле іх слоў, таксама "ковали победу". Тады устаў Жукаў і, звяртаючыся да Молатава і Маленкова, сказаў як адрэзаў: "Вы же со Сталиным гнали людей, как скот, на убой".

На жаль, і сам Георгій Канстанцінавіч не цураўся, прынамсі, у Берлінскай аперацыі такога метаду вядзення вайны, які атрымаў дакладную назву: "Мы за ценой не постоим". Эд.Паляноўскі ў маскоўскіх "Известиях" за 24 чэрвеня абнародаваў дакументы, што праліваюць святло на пытанне, чаму вышэйназваная аперацыя "оказалась одной из самых кровопролитных, жертвенных за всю войну". Горы трупаў на шляху наступаючых заставаліся з-за таго, што два знакамітыя маршалы, Г.Жукаў і І.Конеў, "устроили бешеную гонку на Берлин, стремясь обогнать друг друга". Было ўжо вядома: сталіца рэйха асуджана, саюзнікі штурмаваць яе не збіраюцца (не жадалі новых ахвяр сярод салдат), а камандуючы І Беларускім фронтам (ён жа намеснік Вярхоўнага галоўнакамандуючага) у сваім загадзе — прарвацца на ўскраіну Берліна — ужывае вусцішныя словы "любой ценой"...

У перадваенныя гады Сталін і яго апрычнікі любілі разважаць пра людзей, кадры як "самый ценный капитал" і адначасова бязлітасна знішчалі ні ў чым не вінаватых "строителей социализма". Тым больш не мог гэты антынародны рэжым літаваць людзей падчас вайны. Тады чалавек адчуваў сябе перад начальствам зусім бездапаможным. На фронце п'яны самадур мог адпомсціць падначаленаму за неасцярожна сказанае слова куляй у лоб або ў патыліцу, а цвярозы шукаў больш "тонкі" спосаб вымесціць сваю сляпую злосць.

Апошні "прыём" мне давялося зведаць, як кажуць, на сваёй скуры. Наша часць пасля стаяння ў абароне пачала вызваляць ад акупантаў польскую зямлю. Мне, натуральна, не цярпелася ў баявое падраздзяленне, дзе я лічыўся камандзірам мінамётнага ўзвода (менавіта гэтай справе абучаўся ў вучылішчы). Начальнік жа артылерыі палка, пры якім я знаходзіўся і даручэнні якога выконваў, не жадаў і размаўляць на гэтую тэму. Заставалася адзінае выйсце — звярнуцца да камандзіра палка. Апошні задаволіў маю просьбу, а начарту забараніў надалей трымаць пры сабе афіцэра-памочніка (маё знаходжанне ў штабе, выкліканае абставінамі, якія не залежалі ад мяне, было часовым і стала ўжо фактычна незаконным). "Ты яшчэ пашкадуеш", — буркнуў мне незадаволены артылерыйскі начальнік.

Куды ён цаляў, можна было здагадацца неўзабаве пасля таго, як я дабраўся да падраздзялення і пачаў знаёміцца з мінамётчыкамі. Аднак больш дакладна даведаўся пра ўсё пазней, калі мой нядобразычлівец у спісках часці ўжо не значыўся. Дык вось, трэба было знішчыць дзот, які затрымаў наша наступленне. На ўзлессі ўжо стаялі гарматы, гатовыя для стральбы прамой наводкай па агнявым пункце. Быў выдзелены і стралковы ўзвод, які мог спатрэбіцца, калі б артагонь аказаўся недастаткова эфектыўным. І раптам — стоп! Нечакана прыбыўшы ў батальён начарт прапанаваў яго маладому камандзіру абысціся без артылерыі — яе, маўляў, трэба берагчы. "А пяхоту не трэба?" — спрабаваў адбіцца камбат. "У тваёй пяхоце хапае бесталачы... Вазьмі адсюль па аднаму-два нацмена — вось табе і ўзвод для штурму дзота. А камандаваць ім загадай малодшаму лейтэнанту Лагуновічу".

Артылерысты так і не выпусцілі ніводнага снарада па агнявым пункце. А ў сфарміраваным спешна, па падказанаму прынцыпу ўзводзе, ніхто, акрамя сяржанта, не размаўляў па-руску. Затое не абышлося без пагрозы. "Не выканаеш загад — пойдзеш пад трыбунал!", — кінуў мне ў твар начарт. Не ведаю, на чыю меткасць ён больш разлічваў — нямецкага кулямётчыка ці выканаўца прысуду, але сам ён, скажу адразу, даў маху.

Не стану падрабязна распавядаць пра цяжкасці, з якімі даваўся нам кожны метр смяротна небяспечнай дарогі. Праціўнік не шкадаваў патроны, увесь час вёў шалёны агонь. І ўсё ж такі мы, праўда, не ўсе, змаглі прабіцца. Атакавалі дзот і, закідаўшы яго гранатамі, прымусілі замаўчаць. Так што дарма начарт гамузам ганіў салдат нярускай нацыянальнасці — большасць з іх не толькі не схібілі, але і праявілі мужнасць. Я і сёння нагадваю ўдзельнікаў таго бою з вялікай удзячнасцю. А перад тымі, хто загінуў, калі перамога была не за гарамі, схіляю сваю сівую галаву.

Асабіста мне пашанцавала: хоць хутка быў паранены, але пасля шпіталя зноў вярнуўся ў сваю часць і да канца вайны ўжо не разлучаўся са сваімі мінамётчыкамі. І ўсё ж, калі 9 мая, пасля шматлікіх залпаў у гонар Перамогі, наступіла цішыня, дык, бадай, больш хацелася плакаць, чым смяяцца. Бо нельга было з душэўным болем не думаць пра тое, што натварыла вайна, не смуткаваць аб тых, чыё жыццё яна панесла...

Праз паўстагоддзе пасля разгрому фашызму пачуў па маскоўскім тэлебачанні нечаканае прызнанне цяперашняга прэм'ер-міністра Расіі — правапераемніцы былой савецкай імперыі. 30 чэрвеня ён заявіў, што падчас трагедыі ў Будзённаўску Расійская дзяржава ледзь не ўпершыню ў сваёй гісторыі паставіла жыццё сваіх грамадзян вышэй за якуюсьці палітычную мэтазгоднасць. На мой погляд, гэта ўскоснае пацвярджэнне таму, што мінуўшая вайна вялася бязлітасна ў адносінах да тых, хто цягнуў акопнае ярмо.

Між іншым, на другі дзень пасля тэлеінтэрв'ю В.Чарнамырдзіна слухаў па Беларускім радыё выступ ветэрана, з якога вынікае, што савецкія военачальнікі не толькі не рызыкавалі жыццямі байцоў, а наадварот, дзень і ноч клапаціліся, каб захаваць іх. І самае дзіўнае: гэта нібы датычылася нават салдат штрафных падраздзяленняў, дзе яны адбывалі пакаранне за розныя злачынствы. А вось другі франтавік, рускі пісьменнік В.Астаф'еў, разважаючы на гэтую тэму, заўважыў: "И когда я читаю где-нибудь, как они (асобы вышэйшага камандавання — Г.Л.) разливаются в любви к солдату, я содрогаюсь". ("Родина", 1991, N 6-7).

Так, вайна ёсць вайна. І ўсё ж нармальнага чалавека не можа не хваляваць, не можа не калаціць, калі ён бачыць хлусню, цынізм і бесчалавечнасць тых, хто ў часіну выпрабаванняў распараджаўся лёсам мільёнаў.

“Народная Воля”

*"Дзяржава не можа існаваць без ідэалогіі. Наш Прэзідэнт выбраў ідэалогію аб'яднання ўсіх славян -- прывабную на першы погляд, але немагчымую сёння і гістарычна, і псіхалагічна, і палітычна. Скажам, праваслаўных яшчэ можна сагітаваць у славянскі Саюз. А куды вы дзенеце заходнебеларускіх католікаў? А Украіна? Без яе славянскае аб'яднанне -- нонсенс, прапануйце Украіне гэтую ідэю — і на вас суседзі будуць глядзець як на вар'ятаў. А мы быццам сляпыя і глухія -- крычым на ўвесь белы свет пра "славянскае братэрства". Дзе яно? Пакажыце мне яго -- і я буду шчаслівы разам з вамі".*

*(Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ, палітычны аглядальнік "Народнай газеты").*

*“Малыя дзяржавы, а Беларусь з іх ліку, як сьведчыць гістарычны і сучасны вопыт, могуць знайсьці сваё пачэснае месца ў сьвеце, жывучы ў дружбе і міры з суседзямі. Праблема, аднак, у тым, што нам самім трэба зразумець свой дзяржаўны інтарэс і зрабіць усё магчымае, каб не ператварыцца ні ў правінцыю Расіі, ні ў правінцыю Захаду”*

*Аляксей Кароль,*

кандыдат гістарычных навук, палітолаг

**УЗОР новага пашпарта распрацаваны ў Адміністрацыі Прэзідэнта. Ён не будзе значна адрозьнівацца ад пашпарта з "Пагоняй", які паспелі атрымаць 43 тысячы грамадзян Беларусі. Толькі замест конніка — на вокладцы новы герб. Пашпарты з "Пагоняй" каштавалі дзяржаве ад 12 да 20 мільёнаў долараў. Колькі грошай спатрэбіцца на новыя?**




Мал. Лявона Разладава ("Свабода")

На сёньняшні дзень Беларусь адмініструецца прэзыдэнцкімі “ўказамі”, а народ з гэтага жартуе:

**“Раз указ, два ўказ,**
**Уся Рэспубліка — калгас”.**

З Першых вуснаў

## КАЛГАСЫ ПАМІРАЮЦЬ

Абсалютная большасьць беларускіх калгасаў і саўгасаў памірае — прычым натуральнай сьмерцю і шпаркімі тэмпамі. Іх масавы распад можа адбыцца ўжо сёлета. Пра гэта адкрыта сказаў на прэс-канфэрэнцыі для журналістаў міністр сельскай гаспадаркі і харчаваньня Васіль Лявонаў.

Паводле прыведзеных ім зьвестак, сяк-так зводзяць канцы з канцамі, маючы ўласныя абаротныя сродкі, толькі 67 гаспадарак краіны (гэта менш як 3 працэнты ад усіх калгасаў і саўгасаў). Астатнія — банкруты і спадзяюцца толькі на дзяржаўную казну. Аб'ёмы вытворчасьці тым часам у параўнаньні з 1986 годам скараціліся ажно на 35 працэнтаў. Малака і мяса беларуская вёска дае сёньня прыкладна столькі-ж, колькі ў пачатку 70-х гадоў.

Аналітыкі з Мінсельгасхарчу прадказваюць, што калі ў вёсцы не пачнуцца рэальныя рэформы і захаваецца цяперашні стан выміраньня — праз чатыры гады вытворчасьць упадзе да ўзроўню пачатку 60-х гадоў.






На шматлікія запытаньні нашых чытачоў адносна падпіскі на “Беларускі Дайджэст” паведамляем, што падпіскі як-такой на газэту не існуе, — мы спадзяёмся на дабраахвотныя ахвяры... А дапамога нам вельмі патрэбная, калі хочам мець сваю незалежную беларускамоўную газэту...

З нагоды

# ПРЫЖЫЛОСЯ!

ЛіМ.

Гэты Дзень Незалежнасці краіна сустрэла ў незвычайных варунках, справакаваных "рэферэндумам". У грамадстве ці не ўпершыню ўзнікла пэўная напружанасць. І яе першымі ахвярамі, так бы мовіць, сталі, як заўжды, самыя безабаронныя — нашы дзеці. Толькі-толькі распачалася дэрусіфікацыя сістэмы выхавання і адукацыі; толькі-толькі намеціўся паварот да нацыянальных і агульначалавечых каштоўнасцяў — і зноў камунізм! Гэтым разам — у афарбоўцы нейкай містычнай "славянской еднасці" на чале з Масквою. Гэта выпрабаванне і для псіхікі дарослага, што ж казаць пра дзяцей...

Ужо чую пярэчанні: "А ці не была гвалтам над грамадскай свядомасцю беларусізацыя?" Прыблізна такое пытанне задае небезвядомы аўтар "Свободных новостей" (N 28, 14—21 ліпеня) С. Арцюшэнка. Ён ставіць у заслугу А. Лукашэнку тое, што "спыніў працэс расслаення беларускага грамадства на падставе прынцыпу "двухабшчыннасці". Сімптомы пачатку гэтага працэсу былі ў наяўнасці: нацыянальна-дэмакратычнае цэнзураванне матэрыялаў у вядучай парламенцкай газеце 1991—1994 гг.; шальмаванне рускай мовы і ментальнасці рускіх; ускосная дыскрымінацыя этнічных рускіх пры вылучэнні на вышэйшыя адміністрацыйныя пасады, што існавала апошнія гады (выключэнне рабілася для прыхільнікаў нацыянальнай ідэі); прынцыпова не прадыктаванага сітуацыяй заканадаўства па рэгуляванні стасункаў у міжэтнічнай сферы і г. д.

Абражаныя цалкам цывілізаваным тэрмінам "нацменшасць", прадстаўнікі другой па колькасці этнічнай групы, рускія, пачалі аб'ядноўвацца ў розныя групоўкі і партыі. Дзеянне нараджае супрацьдзеянне. Нацыянал-дэмакратам варта было б грунтоўна вывучыць рысы ментальнасці гэтай этнічнай групы, перш чым "наязджаць" на яе правы".

Даруйце за доўгую цытату, але яе варта было прывесці, каб не сказіць думкі сп. Арцюшэнкі. Калі б гэта было надрукавана ў газеце "Мы и время", у "Советской Белоруссии" альбо ў газеце мясцовых жырыноўцаў, публікацыю можна было праігнараваць. Але гэта перадавіца "Свободных новостей" — газеты, чый дэмакратызм, здаецца, не даводзіцца падвяргаць сумненню. Дык, можа, сп. Арцюшэнка мае рацыю? Паспрабуем разабрацца.

Дастаткова пагартаць падшыўкі "Народнай газеты" (а гутарка ў "СН" ідзе пра яе), каб пераканацца, што на старонках парламенцкай газеты за названы перыяд (1991—1994) і пазней і блізка не было "нацыянальна-дэмакратычнага цэнзуравання". Рэдакцыя паставіла сябе над палітычнай барацьбой, у ёй пэўны час мог выступіць кожны народны дэпутат, незалежна ад партыйнай прыналежнасці. Потым цэнзура, праўда, з'явілася. Тады, калі сп. Кебіч вырашыў (як сёння сп. Лукашэнка) кіраваць сродкамі масавай інфармацыі, газетамі ў прыватнасці. Але ж гэту цэнзуру нельга назваць "нацыянальна-дэмакратычнай". Наадварот: праблемы з публікацыямі з таго моманту з'явіліся ў Зянона Пазняка і ягоных паплечнікаў, у іншых дэмакратаў.

Наконт дыскрымінацыі этнічных рускіх... Калі зазірнуць у "пятую графу" кіраўнікоў усіх узроўняў — ад заводскага майстра да людзей з адміністрацыі прэзідэнта і Кабінет Міністраў, дык рускія складуць там ці не большасць. І не таму, што яны разумнейшыя: такая была (мяркую, і ёсць) кадравая палітыка.

Дзе і хто на Беларусі шальмаваў рускую мову і рускую ментальнасць? Мо сп. Арцюшэнка мае на ўвазе ўжо "хрэстаматыйны" артыкул Пазняка? Дык там і ні слова пра мову і менталітэт — выключна пра імперыялізм, прычым на матэрыях расійскай прэсы. І сёння ў Расіі пішуць пра тое ж самае, прычым вельмі паважаныя газеты. Дастаецца, дарэчы, ад расійскіх аўтараў і расійскаму менталітэту.

Закон аб міжнацыянальных зносінах, зноў жа, прыдумалі не нацыянал-дэмакраты. Якраз парламенцкая апазіцыя БНФ сцвярджала, што на Беларусі, дзе няма глебы для міжнацыянальных канфліктаў, няма і патрэбы ў спецыяльных законах для рэгулявання міжнацыянальных стасункаў і спецыяльных бюракратычных структур для "кіравання" гэтай галіной. Аднак Закон быў прыняты...

"Дзеянне нараджае супрацьдзеянне" — рускія пачалі аб'ядноўвацца..." Якое дзеянне і ў імя чаго аб'ядноўвацца? Няўжо прызнанне (прычым чыста дэкларатыўнае, бо практычных зрухаў не было) прыярытэту беларускасці ў Беларусі чымсьці пагражала вялікай рускай культуры і мове, на якой гавораць дзесяткі мільёнаў чалавек? Гэта называецца "наязджаць на правы"? Аб'яднацца, каб не быць нацменшасцю? А кім тады? Мо каб загнаць беларусаў у іхняй жа хаце пад лаўку — мауляў, "здесь Россия"?..

"Рэферэндум" і іншыя крокі "вертыкалі" якраз і зацвердзілі "двухабшчынны" падзел беларускага грамадства. І гэта, відаць, галоўнае, што надае сацыяльнай сітуацыі напружанасць.

Тым, каму было ў Беларусі добра за камуністычным часам, было добра за кошт беларусаў. У нас не пыталіся, калі прыводзілі палітыку "зліцця нацый"; калі размяшчаліся на нашай зямлі ядзерныя арсеналы і шматтысячныя вайсковыя кантынгенты; калі навязвалі нам будаўніцтва прамысловых гігантаў (якія цяпер стаяць з-за адсутнасці сыравіны і пакупнікоў прадукцыі); калі вывозілі ў маскоўскія сховішчы нашы каштоўнасці, ладзілі над гэтай зямлёю і народам мыслімыя і нямыслімыя эксперыменты. Гэты час канчаецца — вось і ўзняўся вэрхал: "Наших бьют!"

Чатыры гады пад дзяржаўным бел-чырвона-белым сцягам былі як прышчэпка незалежнасці для зламанага 200 гадоў назад дрэва Беларускай дзяржаўнасці.

Што б там ні казалі — яно прыжылося!

Я бачыў напісаныя дзіцячай рукой у школьным сшытку словы: "Беларусь — незалежная дзяржава". Калі вучань падрасце, ён будзе здольны ўзяць у рукі і кельму будаўніка, і аўтамат, каб дабудаваць, а калі спатрэбіцца, то і абараніць — Беларускі дом.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*Мікола КАПЫЛОВІЧ*

## Пра волю

— Ёсць у мяне сабака. Злы, як люты звер. Бо яшчэ шчанюком на ланцуг яго пасадзіў. Таму і злы. Нікога да сябе не падпускае. Акрамя мяне. Душыцца ад злосці, калі хто зойдзе ў двор, зямлю дзярэ лапамі, пену з рота пускае. І раптам у двор зайшоў сусед. Сабака рвануўся і — ланцуг лопнуў. Ну, думаю, бяда: парве суседа. Ажно — не. Сабака ад нечаканасці, што вызваліўся ад ланцуга, спыніўся, заекатаў і пасунуўся назад у будку. Не прывык да волі. Будку яму падавай. І ланцуг. Так і мы, беларусы, займелі волю, незалежнасць і цяпер не ведаем, што рабіць. Хочам, каб зноў на ланцуг пасадзілі...

— Ты чаму п'еш гарэлку?
— Гм... П'ю... П'ю, таму што вадзяністая. Калі-б была густою, то еў-бы.




## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Паважаны Мікола!

Як гэта ні дзіўна, але твой адрыс і тваю газэту я прачытаў у Эўропе, хоць і жыву я ад канца 40-ых гадоў у Амэрыцы.

Адведаў сваю каханую Вільню, якая мяне, старога чалавека, змусіла расплакацца і ад радасьці спатканьняў і ад хамскіх паводзін тупаватых жмудзінаў. (Называць жмудзінаў Літоўцамі — гэта звычайны самаабман, бо Літоўцамі ў гістарычным сэньсе зьяўляемся мы — Беларусы, аб гэтым трэба памятаць, гэта трэба распаўсюджваць, гэтым трэба гардзіцца... На назоў Літва маюць права толькі — Беларусы!)

Яшчэ зусім нядаўна тут у нас у Амэрыцы жмудзіны плакалі і прасіліся спаўчуцьця, бо іх прыгняталі камуністы-расейцы. І гэта было праўдай... Але, як толькі самі дабраліся да ўлады, да карыта — нікому ні ў чым не спагадаюць, асабліва ігнаруюць нас Беларусаў. Аб гэтым мы павінны памятаць...

Па дарозе заехаў у Польшчу. Палякі, як палякі... з імі можна нават груба паспрачацца... А я ў Амэрыцы жыву ў іх асяродзьдзі, нажаль далёка адарваным ад свайго беларускага, што гонару мне не прыносіць... А вось ксяндзоў польскіх я ня зношу...

У Польшчы мне паказалі нейкую газэціну з Менску, здаецца з мінулага месяца выданьня, дзе зьмешчаны пашквільна-хамска-бальшавіцкі артыкул "К а т ы н ь". Што-што, але чапаць гэтую балючую для палякаў ды і іншых справу ніяк не дазволена нейкім бальшавіцкім халуём. Праўду пра Катынь цяпер ведае ўвесь сьвет... Цяпер уся гэтая рэдакцыйная хэўра, гоп-кампанія бальшавіцкіх прыслужнікаў трапіла на чорную лісту ў Польшчы. Пасьля гэтага артыкула выязд для гэтай хэўры на Захад, няважна куды, больш чым небясьпечны...

Выбачай за такі доўгі ліст, для цябе можа нават не цікавы... Перасылаю добрую ахвару на газэту. Калі ласка, газэту высылай звычайнай почтай, бо гэта тое самае, што і лятучай...

Усяго добрага жадае М. С.

*Выбачай, што ліст скарацілі... але ён сам па сабе вельмі цікавы. Ужо сама Твая адвага казаць праўду бяз задніх думак выклікае павагу. Трэба адкрыта сказаць, што нічым неабаснаваны с т р а х паралізуе ўсіх беларусаў, нават больш асьвечаную катэгорыю нашых людзей... Пішы і дапамагай нашай газэце, бо дапамога нам вельмі, вельмі патрэбная...*

Паважаны Спадар Рэдпктар!

...Перасылаю ахвяру на выдавецтва... Хацеў-бы ведаць таксама пад якой сымволікай будуць выступаць беларускія спартсмэны на Алімпіядзе ў Атлянта? Хацеў пасляць $500.оо даль у іхні фонд, але калі яны будуць выступаць пад ненавіснай для мяне бальшавіцкай сымволікай і сьцягам, дык няхай фінансуюць іх бальшавіцка-маскоўскія халуі... Дзякую за газэту...

В. Д.

*Пад якой сымволікай будзе выступаць беларуская каманда на Алімпіядзе, я ня ведаю... Здаецца, гэта ў вялікай меры залежыць ад асабістых жаданьняў спартсмэнаў. Але бяручы пад увагу ўроджаную труслівасьць беларусаў, скарэй за ўсё беларускія спартсмэны будуць выступаць пад бальшавіцкім сьцягам... Добра было-б, каб я памыліўся...*

Вельмі паважаны М. Пруcкі!

Шчыра дзякуем за надасланыя газэты і Вашу няўтомную працу на карысьць беларускага народу. Хай Усемагутны вас узнагародзіць. Ужо другі раз у гэтым годзе пасылаем свае ахвяры на газэту і просім адзін экзэмпляр высылаць на Бацькаўшчыну. Можа яна там здолее падняць на духу маладое пакаленьне...

Цяперашнія кіраўнікі беларусаў вядуць народ у тупік... Дзе Вы бачылі, каб людзі рвалі свой нацыянальны сьцяг ды замянялі яго бальшавіцкім. Нават рускія гэтага не зрабілі... значыць, бальшавіцкі рак укараніўся толькі ў беларускіх выродкаў...

На нашу думку, газэта была-б яшчэ больш цікавай, калі-б пабольшыла апошнюю балонку.

Вам пішуць: М. В. і Ул. Р.

*Дзякую за прыгожыя словы і падтрымку, а падтрымка нам вельмі патрэбная, калі хочам, каб газэта большала як зьместам, так і колькасьцю балонкаў.*
*Беларусь перажывае вялікі крызіс. Вось ужо таму мы ў Замежжы павінны быць больш гойнымі і дабрачыннымі на карысьць беларускае незалежніцкае ідэі... Арганізуйце сярод свае грамады акцыю дапамогі нашай і Вашай газэце!... Дзякую!*

Паважаны Мікола!

Перасылаю ахвяру... Беларусы Замежжа, як ніколі дагэтуль павінны станоўча, адважна, цьвёрда і голасна заявіць на ўвесь сьвет, што яны ніякае бальшавіцкае сымволікі ніколі не прызнаюць і ня прымуць! На маю думку, трэба ўтварыць фонд абароны беларускае нацыянальнае сымволікі...

З павагай, З. А.

***Ідэя цікавая і сваечасовая. Але ці можна нешта такое зрабіць з людзьмі, якія вельмі скупыя, халатныя і нізка нацыянальна сьведамыя?!. А можа я ня ведаю людзей?.. Аднак пра гэта варта падумаць...***

Паважаны Спадар Рэдактар!

Хачу зьвярнуць увагу чытачоў газэты, што стары "паклёпнік", які маскуецца сярод "рьюской" грамады ў адным з гарадкоў Нью Д. ізноў паказаў свае рожкі. Гэтым разам недарэчная пісаніна зьявілася ў газэце "Голас радзімы"... К. М.

*З вялікай неахвотай друкуем гэтую толькі маленькую частку ліста... Шкада месца і часу... А вось "Голасу радзімы" зьмяшчаць такія "хвараблівасьці", на нашу думку, не выпадала-б...*